# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў
і Беларускага таварыства дружбы і культурнай
сувязі з замежнымі краінамі

## ЗМЕСТ



• № 6 (42) • ЧЭРВЕНЬ • 1999 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ •

Заснавальнікі:
**Міжнародная асацыяцыя беларусістаў,**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі**



Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,**
**вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт МАБ**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by**

*На першай старонцы вокладкі —*
**Сімвалічная выява японскай тэатральнай трупы “Мандзюсака”,**
**якая нядаўна гастралявала ў Беларусі.**
**Матэрыял пра яе чытайце на стар. 17–22.**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам МАБ, якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 1998 г.): у Беларусі — **120 тысяч рублёў**,
у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**,
Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская і ў перспектыве — англійская, руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня —
**Камітэту Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы — 3015205833015**
**у філіяле “Акадэмічны” КБ “Поиск”, г. Мінск, код 730;**
**валютны — 3015000005287**
**у Мінскім абласным упраўленні АСБ “Беларусбанк” г. Мінска, код 807.**

***Адам Мальдзіс (Мінск)***

## КАЛІ ГІСТОРЫЮ НЕ ПАВАЖАЦЬ, ЯНА ЖОРСТКА ПОМСЦІЦЬ

*Запознены роздум пра трагедыю на Нямізе ў еўрапейскім кантэксце*

Вось ужо некалькі тыдняў не пакідае мяне, не адпускае пачуццё трывогі і віны. Так, і асабістай віны за тое, што здарылася 30 мая, на праваслаўную Тройцу, на Нямізе і што яшчэ можа здарыцца ў іншых месцах горада і краіны. Калі мы, усе мы, не адчуем адказнасці перад гісторыяй, за захаванне святой памяці пра нашых продкаў.

Пачуццё трывогі нечакана ўзнікла вечарам 30 мая, хаця тады я знаходзіўся далёка ад Мінска — якраз сядаў на цягнік Варшава – Мінск, вяртаючыся з навуковай канферэнцыі ў Кракаве, прысвечанай праблеме “Нацыі і гісторыя: у бок новай Еўропы, Цэнтральнай і Усходняй”. З Беларусі я там аказаўся адзін і неяк неспадзявана для арганізатараў, якія не верылі, што змагу прыехаць, — і адразу ж адчуў нязвычную адчужанасць з боку заходніх калег. А літоўскі дыпламат у сваім выступленні прама сказаў, што Беларусь трэба выкрасліць з Еўропы, бо яна сёння апынулася далёка на Усходзе… Узяўшы слова (апошнім), я спрабаваў з ім палемізаваць, прыгадваючы, што ў Вялікім Княстве Літоўскім “душой” была Вільня, а “целам” — усё ж беларускія землі, што яшчэ Францыск Скарына адчыніў насцеж нашы дзверы ў Еўропу. Дык ці правамерна цяпер, у Кракаве, вось так, насуперак гісторыі, адчляняць “душу” ад “цела”?! Але літоўскага дыпламата ў зале ўжо не было, іншых (акрамя ўкраінцаў) нашы ранейшыя і сённяшнія праблемы не дужа хвалявалі. Таму і ад’ехаў з Кракава з пачуццём спустошанасці і бездапаможнасці. Тым жа тлумачыў сваю трывогу, прадчуванне бяды, што з’явілася ў Варшаве. Чым і падзяліўся з акадэмікам Радзімам Гарэцкім, які вяртаўся з геалагічнага форума і аказаўся ў суседнім купэ. Але, прызнаўшы, што сапраўды “нешта вісіць у паветры”, ён патлумачыў мой настрой тым, што я не выкарыстаў у спрэчцы з літоўцам галоўны аргумент: гістарычная Вільня такая ж літоўская, як і беларуская. І яшчэ невядома, як яно было б, калі б Сталін з Молатавым інакш правялі мяжу. На гэта я заўважыў, што, зважаючы на Хельсінкскія пагадненні аб нязменнасці пасляваенных граніц, выкарыстоўваць мне такія аргументы ў Кракаве было б, па меншай меры, неэтычна… На тым і пагадзіліся.

Але тым часам беспрычынная трывога ўзрастала, сон не прыходзіў нават пасля Брэста. А калі на мінскім пероне сустрэўся з фалькларыстам Васілём Ліцьвінкам, калі ён паспешліва расказаў, што здарылася на Нямізе, дадалося яшчэ і пачуццё віны. Віны за тое, што другая лінія Мінскага метро ўсё ж прайшла так, а не інакш. У свой час, на пачатку васьмідзесятых, мы, групка навукоў-

цаў і літаратараў, абяцалі “касцьмі легчы”, каб не дапусціць разбурэнняў у Верхнім горадзе, на замчышчы. І не леглі, змірыліся. Лінія прайшла пад “сэрцам” Мінска, пад яго святынямі.

Дарэчы, вы ўяўляеце, шаноўныя чытачы, каб расіяне дазволілі пракласці лінію метро пад Крамлём, украінцы — пад Уладзімірскай горкай, чэхі — пад каралеўскім Градам, а палякі — пад Старым Мястам ці пад Вавелем? Безумоўна ж, не дазволілі б! Вось тут, на канкрэтным і вонкава нязначным прыкладзе, і бачыцца агромністая розніца ў стаўленні да мінулага, да сваёй гісторыі беларусаў і іншых суседніх народаў. Розніца, з-за якой нас сапраўды варта аддзяляць ад Еўропы, выстаўляць за адчыненыя Скарынам дзверы як народ, што не адчуў і не хоча сябе адчуць гістарычным. Калі не адумаемся, не выйдзем з чарговай (якой па ліку?) хвалі беспамяцтва.

І знамянальна, што не мы самі сабе, а Масква па тэлебачанню нагадала нам, што нельга было наладжваць ігрышча на “Нямігі крывавых берагах”. Як і нельга было ў свой час размяшчаць там станцыю метро.



*Брама Мінскага замка ў XI ст. Рэканструкцыя*

На працягу трох тыдняў я старанна перагортваў прэсу, імкнуўся чытаць усё, што пісалася пра трагедыю. Прычыны яе ўказваліся самыя розныя. Урадавы друк робіць акцэнт на непрадказальнасць, стыхію, апазіцыйны — на адурманенне моладзі дармовым півам, бездапаможнасць міліцыі. Астролагі звальваюць віну на неспрыяльнае размяшчэнне зорак і планет, праўда, адначасова прызнаючы, што ў той зоне, дзе праходзіла гулянне, пралягае “спалены шлях” (але чаму ён “спалены”, выразна не тлумачаць). Святары слушна папракаюць арганізатараў: нельга было ладзіць такое ў дзень Святой Тройцы і побач з дзеючымі храмамі. Маскоўскія спецыялісты па надзвычайных сітуацыях адразу звярнулі ўвагу на тое, што для масавых мерапрыемстваў месца там малое па памерах, да таго ж абмежаванае ракой і ажыўленымі магістралямі. Напэўна, усё гэта сапраўды больш ці менш спрычынілася да трагедыі. Але ніхто чамусьці не згадвае ці не хоча згадваць фактар *гістарычны*. Бо — ніхто не меў права дазваляць нейкаму таварыству з абмежаванай адказнасцю “Клас-клуб ДжасКрафт” (адна псеўдаеўрапейская назва чаго варта!), каб яно ўстроіла там патанцулькі пад гукі “Манга-Манга” (!) і дармавое піва з “Аліварыі” на святым для кожнага беларуса месцы — там, дзе адбылася летапісная бітва на Нямізе, там, дзе стаялі храмы, а каля іх жа знаходзіліся пагосты. Як і ніхто ў свой час не меў права даваць дазвол, каб станцыя метро размясцілася на Мінскім замчышчы.

…Памятаецца, у свой час на запатрабаваных намі публічных абмеркаваннях мы прапаноўвалі зусім іншы варыянт другой лініі: пачатак — пад Партызанскім праспектам (каб не разбураліся ад вібрацыі дамы наверсе), скрыжаванне з першай лініяй — у раёне чыгуначнага вакзала (уяўляеце, колькі транспартных праблем гэта вырашыла б?), наступная станцыя — у скверы па вуліцы Мяснікова (блізка ад Нямігі, але не на Нямізе), а далей — тая ж Юбілейная плошча… Не трэба было б тады зносіць гістарычныя будынкі ў Верхнім горадзе, не было б злавесных трэшчын у праваслаўным кафедральным саборы, не марнелі б бярвенні, выцягнутыя з прысыпаных зямлёй замкавых сцен (абяцаны музей на іх месцы так і не зрабілі). А значыць, не акумулявалася б у гістарычным сэрцы Мінска разбуральная, адмоўная ("чорная", "спаленая", "д'ябальская") энергія. Як засведчылі ў газеце "Имя" відавочцы, яна літаральна біла па людскіх целах "электрычным зарадам" яшчэ на падыходах да метро. Людзі, якія былі на "свяце" за некалькі хвілін да катастрофы, гаварылі мне, што яны трапілі нібы ў іншае вымярэнне — настолькі дзікімі былі позіркі юнцоў з пляшкамі ў руках. Сама зямля, вада на ёй былі зараджаны адмоўна. Гісторыя помсціла — на жаль, нявінным ахвярам чужога беспамяцтва, і даўнейшага, і цяперашняга. Мінулае папярэджвала: нельга танцаваць на касцях сваіх продкаў.



*Царква XII ст. на Мінскім замчышчы. Выгляд фундамента*

Сваю віну за ўсё, што здарылася на Нямізе, павінен адчуваць і былы галоўны архітэктар Мінска Юрый Грыгор'еў. Гэта ён, чалавек прышлы, а значыць, і абыякавы да мясцовай гісторыі, неабазнаны ў ёй, давёў беспамяцтва ў Мінску да нечуваных памераў. Гэта ён прапаноўваў знесці ўсю ўсходнюю частку Верхняга горада, каб адкрыць від на сваё "дзіця", Палац Рэспублікі, з-за Свіслачы. Гэта ён казаў у Акадэміі навук, што не ведае такіх помнікаў архітэктуры, як Дом масонаў, але затое ведае, што пабудаванае ім застанецца жыць на вякі. Гэта Грыгор'еў размясціў Палац Рэспублікі на руінах дамініканскага храма і могілках пры ім (значыць, зноў жа "на касцях"), хаця можна было безбалесна пасунуць "саркафаг" на колькі дзесяткаў метраў наперад. Гэта ён прадвырашыў лёс будынка былога гарадскога тэатра, дзе ў 1852 г. была пастаўлена "Ідылія" В. Дуніна-Марцінкевіча, першая беларуская аперэта. Не адстаялі мы гэты чатырохпавярховы гмах (на яго месцы цяпер безгустоўны павільёнчык "Пінгвін"), хаця і ішлі "сценка на сценку" з архітэктарамі ў памяшканні ЦК КПБ.

Цяпер таварыша Грыгор'ева няма ў Мінску. Ён з'ехаў у Маскву, працуе там намеснікам галоўнага архітэктара. І, здаецца, разбураць помнікі даўніны ў расійскай сталіцы яму не дазваляюць. Але пра Мінск ён памятае, падказвае нам неканструктыўныя рашэнні. Напрыклад, каб размясціць помнік Аляксандру Пушкіну на схіле ўзгорка, дзе стаіць гасцініца "Беларусь". Бяда тут не толькі ў тым, што помнік гэты будзе губляцца побач з 22-павярховай аграмадзінай, якая не мае да культуры аніякага дачынення, што яго не заўважыш з супрацьлеглай магістралі — праспекта Машэрава. Бяда ў тым, што там, паблізу, знаходзіўся млын легендарнага Менеска, размяшчаліся дахрысціянскі ахвярнік і клады. Значыць — зноў "на касцях"…

Таварыш Грыгор'еў ад нас ад'ехаў, але дух бяспамяцтва застаўся. У Мінску, іншых гарадах стала ледзь не модай узводзіць на могілках будынкі культурнага ўжытку. На месцы каталіцкіх на Залатой Горцы — Палац мастацтваў, на месцы праваслаўных на Старажоўцы — Тэатр моладзі (яго так і называюць: "тэатр на касцях"). На месцы пахавання рускіх воінаў–ахвяр Першай сусветнай вайны (былы Старажоўскі рынак) плануюць узвесці (замест памятнай капліцы) нейкі шматпавярховы цэнтр. А габрэйскія, татарскія, пратэстанцкія могілкі ўвогуле пусцілі пад камунальныя патрэбы.

Або возьмем царкву ў памяць воінаў, што палі ў Афганістане, ля Траецкага прадмесця. Спачатку зрабілі на Свіслачы штучны вадаём, а на вадаёме насыпалі востраў, чым парушылі, змянілі спрадвечны гістарычны ландшафт. Потым на востраве (г.зн. на ранейшай "вадзе") узвялі царкву, якая архітэктурна да прадмесця не дастасоўваецца. А было ж адзіна правільнае рашэнне: узнавіць на фундаментах XII ст. мураваную царкву на Нямізе, на месцы бітвы 1067 г. (першае ўпамінанне Мінска ў летапісных крыніцах), і ўшанаваць такім чынам памяць усіх воінаў нашай зямлі. Тады, відаць, і майская трагедыя не здарылася б. Нават калі б гарадскія ўлады дазволілі ігрышча, не дапусцілі б таго афганскія і іншыя ўдовы! Дарэчы, узноўлены храм на Нямізе быў бы найлепшым увекавечаннем памяці пра тых, хто загінуў на прыступках метро. А то народзіцца яшчэ адзін агістарычны помнік (з ружамі замест хрысціянскіх крыжоў).

Гістарычнае беспамяцтва, якое каштавала нам больш пяцідзесяці маладых жыццяў (а сотні былі паранены і псіхічна траўміраваны), вядома ж, не зводзіцца да помнікаў архітэктуры. Яно значна шырэй, шматаблічней. Гэта і забыццё народных маральных традыцый, што прыводзіць да адсутнасці ў моладзі (у тым ліку ў тых, хто на Нямізе ішоў па целах іншых) станоўчых ідэалаў, крытэрыяў паводзін. Гэта і забыццё роднай мовы, у выніку чаго моладзь пераходзіць на "мататрасянку". Гэта і спробы зноў перапісаць, зноў прыхарошыць сваю гісторыю. Мы апынуліся на новым гістарычным зломе, калі грамадства зноў імкнецца адцурацца ад свайго мінулага (нават помнік Скарыну не хочам паставіць каля Акадэміі, нават Кастуся Каліноўскага робім ворагам беларускасці, нават ля кафедральнага сабора гадамі не можам аднавіць разбураны помнік архітэктуры — дакорліва ўзвышаецца адна сцяна будынка). Імкнемся падысці да традыцый спрошчана, селекцыйна, утылітарна.

Суцяшае ж у нейкай ступені тое, што ў Еўропе адчулі нашу трагедыю, падзяляюць з намі боль. У гэтыя дні ў Міжнародны камітэт беларусістаў, Цэнтр імя Ф. Скарыны са спачуваннем звоняць і пішуць калегі з розных краін. Загадчыца кафедры рэгіянальных даследаванняў Вышэйшай сельскагаспадарчай школы ў Седльцах (Польшча) праф. Марыя Цехацінъска так выказала свае пачуцці: “Мы даведаліся пра няшчасце, якое напаткала ў Мінску многіх маладых людзей, іх сем’і. Жадаем перадаць словы глыбокага спачування ў сувязі з гэтай трагедыяй, якая закранула столькіх грамадзян Беларусі”.

…Доўга, вельмі доўга не мог я сябе прымусіць, каб пайсці на месца трагедыі. Праз тыдні тры ўзняўся па прыступках з пераходу, стаў чытаць надпісы. Найбольш уразілі праклящці самому гэтаму месцу. Бо месца, гістарычнае замчышча, не вінавата. Вінаваты людзі, якія здзекуюцца тут над сваім мінулым. Вінаваты “Клас-клуб ДжасКрафт”, які наладзіў гулі “на касцях”. Зрэшты, кіраўнікі таго бязроднага таварыства, людзі, відаць, зноў жа прышлыя, маглі і не ведаць, што было там раней. Але ж у гарвыканкаме, у нашай мэрыі, дзе выдалі “ДжасКрафту” дазвол, павіны былі ведаць! Як і абавязаны былі ведаць тыя, хто дазволіў на старажытным дзядзінцы ўстанавіць (насупраць перахода) шыкоўную рэкламу, разгорнутую на тры бакі: “Кредитэкспобанк — локомотив межгосударственных расчетов”.

Дзе, у якой яшчэ еўрапейскай сталіцы такое магчыма?!

І ці дазволілі б рускія “свята піва” на Барадзінскім або Кулікоўскім полі, сербы — на Косаўскім, палякі — пад Грунвальдам?

Дык, можа, меў рацыю літоўскі дыпламат, які ў Кракаве так рашуча адлучаў нас ад Еўропы? Можа, сапраўды мы варты такога лёсу, калі не паважаем мінулае, а значыць, і саміх сябе?!

Дай, Божа, каб мы ўсе ўсвядомілі сваю віну перад продкамі, каб не зыходзілі на нас новыя і новыя папярэджанні-пакаранні.

P.S. 1. Не, усё ж нічога мы не зразумелі з нядаўняга ўрока гісторыі. У апошнім нумары газеты “Мы и время”, у інтэрв’ю намесніка старшыні Мінгарвыканкама таварыша Віктара Чыкіна, які пасадзейнічаў бязроднаму “Клас-клубу ДжасКрафт”, чытаю: “Место в районе проспекта Машерова — самое удобное и безопасное в столице. Другого такого просто нет”.

І гэта — пасля заключэння маскоўскіх спецыялістаў, наперакор яму!

Выходзіць, праўду кажуць у народзе, што калі Бог хоча народ пакараць, то адбірае ў яго памяць.

P.S. 2. Сёння, вычытаўшы з раніцы артыкул, інстынктыўна рашыў пайсці на работу праз былыя Старажоўскія могілкі. Звярнуў да каменя, якога раней не бачыў. І раптам з жахам даведаўся, што помнік Тарасу Шаўчэнку таксама будзе ўзведзены “на касцях”. Ну што мы за людзі! Няўжо нельга помнік паставіць у Кіеўскім скверы, каля кінатэатра “Кіеў”, у канцы бульвара Шаўчэнкі? Чаму ні з кім не раімся?

Не, яўна менталітэт наш не еўрапейскі. Толькі тады чый?

*Эдуард Дубянецкі (Мінск)*

## ПОШУК ШЛЯХОЎ ПРАЙШОЎ ПЛЁННА

15–16 чэрвеня ў зале пасяджэнняў Нацыянальнага навукова-асветнага Цэнтра імя Ф. Скарыны адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя “Шлях да ўзаемнасці”. Арганізатарамі форума выступілі Скарынаўскі цэнтр, кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і Польскі інстытут у Мінску.

Падобныя канферэнцыі з удзелам беларускіх і польскіх даследчыкаў праводзяцца штогодна з 1993 г. Таму сёлета адбылася ўжо сёмая сустрэча навукоўцаў дзвюх суседніх краін. На гэты раз афіцыйна было заяўлена 31 выступленне. У адрозненне ад мінулага года, калі канферэнцыя праходзіла ў Польшчы і тады колькасна пераважалі польскія даследчыкі, цяпер ужо дамінавалі беларускія навукоўцы. На канферэнцыі прагучала 28 цікавых і змястоўных дакладаў (з іх 20 зрабілі беларускія, а 8 — польскія ўдзельнікі). Бадай упершыню ў дзейнасці гэтага форума прынялі ўдзел не толькі сталічныя, а і, так бы мовіць, “правінцыйныя” беларускія навукоўцы — у прыватнасці, з Віцебскага універсітэта.

Ва ўступным слове доктар габілітаваны, прафесар Аляксандр Баршчэўскі з Варшаўскага універсітэта заклікаў усіх прысутных супольна шукаць шляхі да ўзаемнасці і згоды, глыбока асэнсоўваць багатую гістарычную спадчыну абодвух народаў, устрымліваючыся пры гэтым ад неабгрунтаваных каментарыяў.

Дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Томаш Нягодзіш выказаў упэўненасць у тым, што ўзаемапаразуменне, безумоўна, будзе знойдзена, бо ў мінулым Беларусь і Польшча на працягу не аднаго стагоддзя мелі даволі шчыльныя і плённыя (хаця часам і супярэчлівыя) кантакты.

У дакладзе доктара з Люблінскага універсітэта імя М. Складоўскай-Кюры Рышарда Радзіка разглядаліся асаблівасці ўспрымання палякамі беларускага насельніцтва на працягу двух апошніх стагоддзяў. Прамоўца падкрэсліў, што недастатковая выразнасць, пэўная неакрэсленасць стэрэатыпа беларусаў у вачах палякаў была абумоўлена шматлікімі фактарамі, сярод якіх — этнагістарычныя, сацыяльна-эканамічныя, грамадска-палітычныя, рэлігійныя, этнакультурныя, псіхалагічныя і інш. Доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан (Скарынаўскі цэнтр) прысвяціў сваё выступленне аналізу сутнасці беларускай нацыянальнай ідэі ў міжваеннай Польшчы на працягу 1920–1930-х гг. Беларускі філосаф сцвердзіў, што найбольшы ўклад у распрацоўку і абгрунтаванне беларускай ідэі ўнеслі тады тры “кіты” беларускага інтэлектуалізму хрысціянскага кірунку — І. Канчэўскі (І. Абдзіраловіч), У. Самойла (Суліма) і А. Станкевіч.

Вядомы беларускі паэт, доктар філалагічных навук, прафесар Алег Лойка з

Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў сваім дакладзе “Беларусь і польская паэзія ХХ ст.” на многіх канкрэтных прыкладах паказаў, які прыкметны ўклад у польскае прыгожае пісьменства ўнеслі паэты – ураджэнцы беларускіх зямель. Доктар з Люблінскага універсітэта Міхал Саевіч даволі падрабязна прааналізаваў складаныя пытанні нацыянальнай самасвядомасці, рэлігійнай арыентацыі і моўнай практыкі поліэтнічнага насельніцтва Беласточчыны.

Кандыдат юрыдычных навук Галіна Дзербіна (Скарынаўскі цэнтр) спынілася на праблеме ўзаемаўплываў прававой культуры Польшчы і Беларусі ў XVI ст. У дакладзе было адзначана, што кадыфікаванае права Вялікага Княства Літоўскага (найперш — Статуты ВКЛ) з’яўлялася ўзорам для тагачаснага польскага заканадаўства. Маладыя выкладчыкі Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Андрэй Рамадан і Алег Сувалаў зрабілі цікавыя даклады, прысвечаныя адпаведна высвятленню ўмоў і прынцыпаў прызначэння палякаў на дзяржаўныя пасады ў ВКЛ у другой палове XVI ст., а таксама асэнсаванню ўкладу польскіх вучоных XIX ст. у вывучэнне этнагенезу беларусаў.

Прафесар БДУ Вячаслаў Рагойша на прыкладзе свайго роднага мястэчка Ракаў разгледзеў гістарычную ролю заходнебеларускіх мястэчак як асяродкаў беларуска-польскага сумежжа. А аспірант таго ж універсітэта Пётр Рагойша паспрабаваў высветліць адметныя рысы т. зв. “сенсацыйных” раманаў нашага земляка, вядомага ў Польшчы пісьменніка Сяргея (Сергіюша) Пясецкага.

У дакладзе прафесара Вышэйшай педагагічнай школы з Зялёнай Гуры Базыля Цеханюка было прыведзена шмат цікавых фактаў пра афіцыйныя формы ўласных імёнаў, найбольш пашыраных на беларуска-польскім памежжы ў XVI – першай палове XIX ст. Кандыдат філалагічных навук Уладзімір Мархель (Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі) усебакова прааналізаваў матывы радзімы ў санетах Адама Міцкевіча. Дарэчы, неабходна падкрэсліць, што пры непасрэдным і актыўным удзеле аўтара (ён быў укладальнікам, перакладчыкам і аўтарам каментарыяў) летась у Мінску выйшла кніга санетаў класіка польскай літаратуры і нашага земляка А. Міцкевіча.

Аспірантка Віцебскага універсітэта імя П. М. Машэрава Вольга Канопліч выявіла асаблівасці беларускамоўнай і польскамоўнай творчасці Яна Баршчэўскага, а яе калега з таго ж універсітэта Ірына Саматой прааналізавала архетыпы беларусаў у творчасці вядомага пісьменніка з Беласточчыны Сакрата Яновіча.

Прафесар А. Баршчэўскі разгледзеў адметныя рысы і змест малых празаічных формаў у творчасці пісьменніка-”белавежца” Вінцука Склубоўскага. А грамадскі дзеяч і пісьменнік з Варшавы Ян Жамойцін у сваю чаргу расказаў, як беларуская гістарычная, культурная і літаратурная спадчына прадстаўлена ў даследаваннях А. Баршчэўскага.

Кандыдат гістарычных навук са Скарынаўскага цэнтра Лідзія Кулажанка на падставе правядзення спецыяльнага апытання прааналізавала сучасны стан і праблемы беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Адразу пасля гэтага выступлення прафесар А. Баршчэўскі адзначыў, што даклад быў, безумоўна, цікавы, насычаны новымі фактамі і лічбамі. Але ўсё ж не варта, на яго погляд, пры-

мяняць у дадзеным выпадку тэрмін “беларускае школьніцтва”, бо на сённяшні дзень на Беласточчыне няма ніводнай поўнасцю беларускай школы і толькі ў асобных з іх ёсць беларускамоўныя класы. Сімпатычная супрацоўніца Беларускага радыё ў Варшаве доктар Ніна Баршчэўская прысвяціла сваё выступленне выяўленню таго, як у пасляваенныя гады эмігранцкая газета “Бацькаўшчына” клапацілася пра чысціню беларускай мовы.

Кандыдат гістарычных навук з БДУ Мечыслаў Часноўскі ў сваім дакладзе паказаў спецыфіку беларуска-польскіх кантактаў у сучасны перыяд, не абыходзячы пры гэтым і прычын асобных цяжкасцей і перашкод у дадзенай сферы.

Дырэктар Скарынаўскага цэнтра, кандыдат філалагічных навук Любоў Уладыкоўская-Канаплянік прааналізавала ролю каталіцтва ў беларуска-польскім узаемадзеянні на сучасным этапе. Яна выказала думку, што Беларусь, улічваючы шматвяковы вопыт мірнага суіснавання розных канфесій, у перспектыве, верагодна, магла б стаць сапраўдным асяродкам міжнароднага экуменічнага руху.

Доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс (Скарынаўскі цэнтр) спыніўся на асноўных дасягненнях і праблемах беларуска-польскага навуковага супрацоўніцтва на працягу апошняга дзесяцігоддзя.

Прафесар БДУ Валерый Ярмоленка ахарактарызаў асаблівасці беларуска-польскіх творчых сувязей у галіне прыродазнаўчых навук. Выкладчык Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка Леанід Акаловіч асвятліў пытанні, звязаныя з гісторыяй і родавым гербам беларускага і польскага шляхецкага роду Манюшкаў. Між іншым, яго аповяд суправаджаўся паказам цікавага ілюстрацыйнага матэрыялу. Выкладчык Люблінскага універсітэта Дарыюш Тарасюк прааналізаваў featuresрознабаковую грамадска-культурную дзейнасць палякаў у Мінску ў пачатку XX ст.

Завяршалі канферэнцыю даклады навукоўцаў, якія разглядалі розныя аспекты беларускай і польскай фальклорнай спадчыны. Напрыклад, кандыдат гістарычных навук Эдуард Дубянецкі (Скарынаўскі цэнтр) у сваім выступленні разгледзеў спецыфіку беларускіх і польскіх прыказак аб радзіме. Прафесар Люблінскага універсітэта Ганна Возьняк расказала пра адметныя рысы жаночых міфічных істот у беларускім і польскім фальклоры. Кандыдаты філалагічных навук Васіль Ліцьвінка (БДУ) і Алесь Лозка (БДПУ імя М. Танка) прысвяцілі свае даклады адпаведна перспектывам даследаванняў фальклору рэгіёна Белавежскай пушчы, аналізу беларускага і польскага народнага календара.

Увогуле ж, па аднадушнаму меркаванню ўдзельнікаў, дадзеная канферэнцыя ў параўнанні з папярэднімі была больш цікавай, насычанай і плённай. Арганізатары канферэнцыі паведамілі, што найбольш цікавыя матэрыялы мяркуецца надрукаваць у бліжэйшых нумарах “Кантактаў і дыялогаў”, а ў перспектыве, мажліва, выдаць тэксты ўсіх выступленняў асобным зборнікам.

У цэлым, можна сцвярджаць, што шляхі да ўзаемнасці і ўзаемапаразумення знайсці ўсё ж удаецца, бо, нягледзячы на асобныя дыскусійныя моманты ў асэнсаванні складаных навуковых праблем, на канферэнцыі панавала атмасфера добразычлівасці.

*Любоў Уладыкоўская-Канаплянік (Мінск)*

# РОЛЯ КАТАЛІЦТВА Ў БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІМ УЗАЕМАДЗЕЯННІ НА СУЧАСНЫМ ЭТАПЕ

Каталіцкая канфесія здаўна існавала на Беларусі. Яна адыграла адну з галоўных роляў у працэсе фарміравання беларускай культурнай традыцыі ў аспектах рэгіянальна-дэмаграфічным, уласна-культурным, духоўным, светапоглядным.

У розны час уплыў каталіцтва на беларускі нацыянальны рух быў розны ў залежнасці ад таго, у склад якой дзяржавы ўваходзіла Беларусь. З пачатку XIX ст. каталіцкія святары пераважна падтрымлівалі беларускі нацыянальны рух.

Менавіта ў каталіцкім асяроддзі нарадзіліся Я. Чачот, В. Дунін-Марцінкевіч, У. Сыракомля, П. Багрым, К. Каліноўскі, А. Гурыновіч, Ф. Багушэвіч, К. Каганец, Ядвігін Ш., Цётка, Я. Купала, А. Гарун, браты Луцкевічы, В. Ластоўскі, Я. Драздовіч і інш. “Каталіцкасць” — гэта не “польскасць”, не вера, што прыйшла з Захаду. З Захаду прыйшоў абрад, а вера — ад Езуса Хрыста і па волі Божай…

Тым не менш, лёс каталіцтва на Беларусі ў многім залежаў ад Польшчы, яно ў нейкай ступені насіла (і часткова цяпер носіць) польскі характар, што і паслужыла передумовай сумяшчэння этноніма і канфесіёніма: “паляк” — значыць, “католік”, “католік” — значыць, “паляк”. І, як не дзіўна, гэтая праблема цалкам не знята да сённяшняга дня.

Трэба прызнаць, што пасля працяглага перыяду ваяўнічага атэізму, у 80–90-я гады XX ст., Польшча дапамагала адрадзіць каталіцтва на Беларусі:

• Сам факт суседства з каталіцкай Польшчай у часы, калі людзі там маглі прымаць святыя сакраманты ў храмах, спрыяў захаванню ў нас хрысціянскай веры.

• З 217 ксяндзоў, якія ў 1998 г. абслугоўвалі 392 каталіцкія парафіі, польскіх святароў налічвалася ажно 140 ( Брэсцкая вобл. — 16, Віцебская — 24, Гомельская — 7, Гродзенская — 69, Магілёўская — 21, Мінская — 3). Для параўнання: з Літвы — 5 святароў, з Латвіі — 1, Германіі — 1, мясцовых — 73.

• У Гродзенскай духоўнай семінарыі, якая дзейнічае з 1990 г., працуюць у асноўным выкладчыкі з Польшчы, як, дарэчы, і ў Гродзенскім катэхетычным інстытуце, і ў Баранавіцкім катэхетычным каледжы.

• Польскі касцёл забяспечвае беларусаў літаратурай (беларускай пакуль недастаткова), а польскія фірмы дапамагаюць адбудоўваць храмы (да прыкладу, катэдральны касцёл св. Марыі Панны ў Мінску).

• Беларускімі касцёламі арганізоўваюцца паездкі ў Польшчу дзяцей з нядзельных школ.

• З-за адсутнасці ў нашай краіне адпаведных устаноў юнакі і дзяўчаты з Беларусі навучаюцца ў Каталіцкім універсітэце ў Любліне і ў Варшаўскай тэалагічнай акадэміі.

Да таго ж, вялікае значэнне мае для нас вопыт польскага касцёла, які быў апірышчам нацыянальнай культуры ў неспрыяльны для яе развіцця час.

*Каталіцтва ў Польшчы і каталіцтва ў Беларусі — розныя рэчы.* Розніца ж вынікае з розніцы гістарычна-культурнага лёсу народаў, розніцы традыцый, геапалітычнага становішча, урэшце, рэалій сённяшняга дня. Прывяду толькі адзін прыклад спецыфікі касцёла на Беларусі ў 80–90-я гг. Каталіцтва зазнае на Беларусі моцны ўплыў іншых канфесій, найперш — праваслаўя. Станоўчы бок гэтага ўплыву — вялікія патэнцыі экуменізму, што асабліва яскрава выяўляюцца ў дзейнасці каталіцкага святарства. Магчыма, менавіта на Беларусі ўзнікне сусветнага ўзроўню Рэлігійная унія, якая паяднае Захад і Усход.

*Што ж трэба, каб каталіцтва паспрыяла добрасуседскім адносінам Польшчы і Беларусі,* а не служыла аджыўшым свой век стэрэатыпам "польскай інтрыгі", "акаталічвання – апалячвання"?

Што трэба, каб каталіцтва спраўдзіла на Беларусі сваю *універсальную* місію, а не *польскую*?

Што трэба, каб каталіцтва на Беларусі было незалежнае ад палітычных задач з іх кан'юктурнасцю, з'яўлялася ўвасабленнем еўрапейскай *філасофіі*, еўрапейскай *культуры*, урэшце, хрысціянскага светапогляду?

З аднаго боку Касцёл павінен быць незалежным, надсацыяльным, але, з другога боку, адарванасць Касцёла ад сацыяльнага жыцця ёсць неўмяшальніцтва яго ў фарміраванне грамадскай думкі, што паграджае адкідваннем хрысціянскіх ідэалаў на ўзбочыну жыцця.

*Касцёл на Беларусі павінен адчуваць, што беларусы жывуць асобным жыццём, што ёсць дзяржава Беларусь, ёсць самастойная беларуская культура, ёсць беларусы, якім патрэбна згуртаванне. Касцёл павінен дапамагчы нам усім набыць пэўную, цвёрдую маральную і грамадзянскую пазіцыю.*

Ведаю, што ў Польшчы беларушчыну фактычна падтрымлівае Праваслаўная Царква, але на Беларусі менавіта на Каталіцкі Касцёл ускладваюцца вялікія надзеі ў плане абуджэння патрыятычных, народных пачуццяў і фарміравання нацыянальнай самаідэнтыфікацыі.

Улічваючы, што сістэмы рэлігійныя маюць большы ўплыў на жыццё грамадства, чым, напрыклад, сістэмы навуковыя, разумеючы, што Беларусь адным сваім бокам моцна прарасла на Усход, а другім — на Захад, *Касцёл можа не раз'ядноўваць нацыянальны арганізм*, раз'ядноўваючыся перадусім у самім сабе (Гродзенская дыяцэзія да гэтага часу моцна трымаецца польскіх традыцый, а Мінска-Магілёўская архідыяцэзія і Пінская дыяцэзія лягчэй паддаюцца нацыянальным уплывам). Каталіцкі Касцёл *мусіць актывізаваць уласцівыя яму дысцыплінаванасць, ідэалізм, ахвярнасць і на падставе ідэйна-культурнай кансалідацыі, як і на падставе экуменізму, спрыяць аб'яднанню беларускай нацыі.*

Адносіны паміж людзьмі, а раўназначна і паміж народамі будуць павярхоўнымі, а значыць, і малакаштоўнымі, калі не закранаюць іх глыбіннай сутнасці. Калі Касцёл будзе ўсяго толькі функцыянальна, а не сутнасна, успрымаць беларусаў, ён не будзе садзейнічаць глыбіннаму добрасуседству беларусаў і палякаў. *Калі Касцёл дапаможа абудзіць маральнасць, духоўнасць,*

*а значыць, і патрыятызм беларусаў,* ён істотна ўмацуе, зробіць нашу повязь іманентнай.

Дзякуючы такой працы Касцёла памножыцца дабрыня, духоўнасць, усталюецца ўзаемаразуменне паміж людзьмі. А несці святло спакою, лагоды і міру і ёсць адно з асноўных заданняў Касцёла.

Чаго канкрэтна мы чакаем ад ксяндза незалежна ад таго, з Польшчы ён, з якой іншай краіны ці з Беларусі?

• Веры і ведаў, свядомай пазіцыі святара ў дачыненні да нацыянальнай культуры, якая таксама ёсць выяўленнем духоўнасці.

• Інтэлігентнасці, адукаванасці, што абавязкова мае на ўвазе веданне беларускага нацыянальнага менталітэту, хаця б асноў беларускай гісторыі і культуры.

• Валодання беларускай мовай, яе ўжывання не толькі ў час святой імшы, але і ў штодзённым побыце. Душпастырства — асноўнае заданне святара, якое выконваецца ім безупынна, — наўрад ці можа быць эфектыўным, калі накіроўваецца на беларуса не па-беларуску, незалежна ад таго, ці гэта ўласна душпастырская дзейнасць, ці душпастырска-культурная, душпастырска-асветная, душпастырска-гуманітарна-харытатыўная і г. д. На жаль, у Гродзенскай духоўнай семінарыі выкладанне ўсіх дысцыплін будучым святарам, пераважная большасць якіх з Беларусі, адбываецца ці не цалкам на польскай мове.

• Асветніцтва, скіраванага на народ. Святар мае велізарны ўплыў на свядомасць і падсвядомасць вернікаў. У маім разуменні ксёндз не павінен апускацца да нацыянальнага нігілізму, якім часта грашаць вернікі, а наадварот, менавіта яму належыць узнімаць людзей да разумення неабходнасці любіць Бога, бацькоў, Бацькаўшчыну, што немагчыма без шанавання сваёй мовы, гісторыі, зямлі.

Я моцна ўпэўнена, што на Беларусі душпастырскія задачы святара могуць быць вырашаны шляхам спрыяння росквіту беларускай нацыі, тлумачэння яго неабходнасці і натуральнасці, выхавання павагі да традыцый свайго краю, сваёй гісторыі. Гэткім чынам будзе выканана важная місія хрысціянства — пашырэнне чалавечай свядомасці, паглыбленне і ўзвышэнне яго духу — у чалавеку, яго жыцці, у навакольным свеце.

Ліквідацыя ж падстаў дамінавання ў грамадстве ўяўленняў пра каталіцтва як “польскую інтрыгу” паспрыяе *актывізацыі Касцёла*, пашырэнню каталіцтва, а заходні варыянт хрысціянскага светапогляду на глыбокім узроўні зблізіць беларусаў і палякаў; а таксама паслабленню часта негатыўнага ўспрымання суседзяў з-за іх нібыта “каталіцкай экспансіі”. Доказ такога ўспрымання — пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 3 ліпеня 1995 г., якая забараніла прыезд у Рэспубліку Беларусь святароў з Польшчы (і толькі з Польшчы!).

Адным словам, для таго, каб Польшча была нам саюзнікам і сабратам, неабходна з боку Каталіцкага Касцёла ў Польшчы добрая воля ва ўсялякай падтрымцы беларускага каталіцтва.

Такім чынам, каталіцтва як светапоглядная сістэма можа збліжаць беларускі і польскі народы. Але трэба ўлічваць, што добрасуседству, даверу паміж намі больш спрыяе не польскасць Каталіцкага Касцёла, а яго беларусізацыя.

## "ПУШКІН — БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА — СУЧАСНАСЦЬ"

У сувязі з 200-годдзем з дня нараджэння А. С. Пушкіна 26–27 мая ў Доме дружбы з замежнымі краінамі прайшла Міжнародная навуковая канферэнцыя "Пушкін — беларуская культура — сучаснасць", арганізаваная Інстытутам літаратуры імя Я. Купалы НАНБ, Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны і Дзяржаўным камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь. З уступным словам выступіў акадэмік А. І. Падлужны. На пленарным пасяджэнні з дакладамі выступілі вядомыя расійскія вучоныя: доктар філалагічных навук, дырэктар Цэнтра беларусазнаўчых даследаванняў Інстытута славяназнаўства і балканістыкі РАН Юрый Лабынцаў ("Руская эліта пушкінскай пары і культурная спадчына Вялікага Княства Літоўскага"); доктар філалагічных навук, загадчык аддзела Нацыянальнай бібліятэкі Расіі Мікалай Нікалаеў ("Аляксандр Пушкін і Іаан Грыгаровіч — сустрэчы ў кулуарах палацаў і на старонках часопіса "Современник"); дырэктар Музея гісторыі г. Магілёва Ігар Пушкін ("Па дарозе ў ссылку") і іншыя даследчыкі творчасці А. С. Пушкіна. Удзельнічала больш за 80 навукоўцаў, якія працавалі ў чатырох секцыях: "Пушкін і сучаснасць", "Пушкін і Беларусь", "Пушкін і гісторыя", "Пушкін: пераклад, мова, паралелі". Былі заслуханы цікавыя даклады прафесараў і выкладчыкаў БДУ, Брэсцкага ДУ імя А. С. Пушкіна, Гомельскага ДУ імя Ф. Скарыны, Віцебскага ДУ імя П. М. Машэрава, Гродзенскага ДУ імя Я. Купалы і іншых навучальных установаў Беларусі.




Шматграннасць творчасці Пушкіна, уплыў яе на беларускую літаратуру былі паказаны ў дакладах Васіля Жураўлёва, Мікалая Грынчыка, Міхася Тычыны, Анатоля Вераб'я, Валерыя Чарапіцы, Мікалая Мішчанчука, Міхася Кенькі, Ірыны Багдановіч, Уладзіміра Мархеля, Івана Штэйнера і іншых удзельнікаў.

У час канферэнцыі ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна адбылася прэзентацыя кнігі "А. С. Пушкін і Беларусь", укладальнікам якой з'яўляецца аўтар гэтых радкоў. У кнігу ўвайшлі артыкулы беларускіх навукоўцаў і журналістаў,

вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя памяці А. С. Пушкіна, а таксама бібліяграфія “Пушкін у друку Беларусі”. На прэзентацыі прысутнічалі супрацоўнікі Расійскага пасольства, удзельнікі канферэнцыі. Прафесар Адам Мальдзіс паведаміў, што ў Цэнтры імя Ф. Скарыны рыхтуецца цэлая серыя кніг пра сувязі сусветна вядомых паэтаў, кампазітараў з Беларуссю. Укладальнік кнігі расказала, як збіраліся матэрыялы зборніка. Супрацоўніца бібліятэкі Алена Клюева падзялілася думкамі пра свой удзел у падрыхтоўцы выдання. У канцы прагучалі рамансы на вершы А. Пушкіна ў выкананні спявачкі Таццяны Громавай.

***Таццяна Махнач**, супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*

## “ГЁТЭ І БЕЛАРУСЬ”



28 мая ў Мінску ў Доме дружбы адбыўся Міжнародны “круглы стол”, прысвечаны 250-годдзю з дня нараджэння Іагана Вольфганга фон Гётэ “Гётэ і Беларусь”. На пачатку прагучалі песні на словы Гётэ ў выкананні самадзейных артыстаў з Таварыства “Widergeburt”, затым — прывітанні: ад нямецкага пасольства, ад Інстытута Гётэ, ад Цэнтра імя Ф. Скарыны, ад Таварыства “Widergeburt”, ад Таварыства “Беларуска-нямецкія сустрэчы”.

З уступным дакладам “Адносіны Гётэ да рамантызму” выступіў прафесар са Штутгарта Гармут Фрошле. Затым прагучалі выступленні У. Сакалоўскага, Е. Лявонавай, В. Скорабагатава, П. Копанева, Э. Садаўнічага, М. Патрэбы, Я. Адамовіча, В. Выхоты, В. Кірысь, В. Грышкевіч, К. Цвіркі, А. Рэзніка. Адбылася прэзентацыя нумара бюлетэня “PROEVROPA” (Брэст), прысвечанага Гётэ, пад рэдакцыяй Я. Балясіна. Вялі пасяджэнне пісьменнікі Вольга Іпатава і Адам Мальдзіс.

У заключэнне прагучаў канцэрт “Беларускай капэлы”. У яго былі ўключаны рамансы на словы Гётэ, урыўкі з оперы “Фаўст”, музыку якой напісаў наш суайчыннік Антон Радзівіл. Гэтая опера будзе пастаўлена ў Мінску ў ліпені бягучага года.

Даклады і выступленні атрымаліся цікавымі і змястоўнымі. Вынікам “круглага стала” можа стаць кніга “Гётэ і Беларусь”, у якую ўвойдуць матэрыялы канферэнцыі, лепшыя раней надрукаваныя артыкулы, вершы пра Гётэ, а таксама бібліяграфія “Гётэ ў друку Беларусі”.

***Валянціна Грышкевіч,** супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*

## ВЕЧАР, ПРЫСВЕЧАНЫ ІОСІФУ ГАШКЕВІЧУ

9 чэрвеня ў Беларускім таварыстве дружбы адбыўся вечар, прысвечаны 185-годдзю з дня нараджэння Іосіфа Гашкевіча (1814–1875), першага консула Расіі ў Японіі, ураджэнца Беларусі, выдатнага вучонага і падарожніка. Апошнія гады свайго жыцця ён правёў у вёсцы Малі цяперашняга Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці. Там, у мясцовым Доме культуры, яму прысвечана музейная экспазіцыя. А ў Астраўцы ўстаноўлены бюст нашаму суайчынніку, дзейнічае Міжнародны фонд імя Іосіфа Гашкевіча, створаны з удзелам МАБ. Вось чаму ў вечары прыняла актыўны ўдзел дэлегацыя Астравецкага раёна ў складзе старшыні райсавета Віталія Лянкевіча, прэзідэнта фонда імя І. Гашкевіча Дануты Чарнушэвіч, дырэктара раённай бібліятэкі Веры Тумаш, старшыні райспажыўсаюза Юрыя Кацнельсона. Апошні, дарэчы, выступіў спонсарам вечара.



Вечар пачаўся з выступлення ганаровага госця, Часовага Паверанага ў справах Японіі ў Беларусі пана Сігэо Нацуі. Ён падкрэсліў, што ў яго краіне памятаюць Іосіфа Гашкевіча, часта пішуць пра яго ў друку. Прысутным былі паказаны два тэлефільмы, прысвечаныя выдатнаму вучонаму (адзін быў зняты ў Астравецкім раёне). Затым са “Словам пра Іосіфа Гашкевіча” выступіў пісьменнік і вучоны-фалькларыст, перакладчык на беларускую мову кнігі Васілія Гузанава “Адысей з Белай Русі”, прысвечанай нашаму земляку, Янка Саламевіч. Пра традыцыі беларуска-японскага супрацоўніцтва, яго сучасны стан гаварылі на вечары прадстаўнік Міністэрства замежных спраў Віталь Мірутка, старшыня праўлення Беларускага таварыства дружбы Арсень Ваніцкі, намеснік старшыні Таварыства “Беларусь – Японія” Дзмітрый Булахаў, віцэ-прэзідэнт фонда імя І. Гашкевіча Мікалай Люцко. Філолаг, спецыяліст па генеалогіі Леанід Акаловіч падзяліўся вынікамі сваіх росшукаў пра род Гашкевічаў.

На вечары адбылася прэзентацыя беларуска-японскага і японска-беларускага слоўніка, складзенага японскім беларусістам Руносукэ Курода. Па сутнасці, гэта першы ў свеце даведнік такога тыпу, складзены небеларусам. Руносукэ Курода ўваходзіць ў склад японскага згуртавання беларусістаў, якое нядаўна правяло свой арганізацыйны сход. На вечары быў зачытаны ліст пра гэта за подпісам прафесара Джун-іці Сато.

Прысутныя агледзелі выстаўку выданняў, прысвечаных беларуска-японскаму культурнаму ўзаемадзеянню і Іосіфу Гашкевічу, з фондаў Цэнтра імя Ф. Скарыны. У час вечара гучала музыка XIX ст. у выкананні Уладзіміра Дулава.

***Тамара Шкурко**, супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*

# ЯПОНСКІ ТЭАТР: ТРАДЫЦЫІ І ЭСТЭТЫКА

Культурнае жыццё Беларусі ў канцы сакавіка — пачатку красавіка было адзначана зусім нязвыклай падзеяй. Па вёсках ды гарадах Чачэрскага, Краснапольскага, Брагінскага і іншых раёнаў Магілёўшчыны і Гомельшчыны гастралявала тэатральная трупа “Мандзюсака” з далёкай Краіны ўзыходзячага сонца. Не засталася па-за ўвагай і беларуская сталіца. 3–4 красавіка мінчукі мелі шанц на свае вочы ўбачыць на купалаўскай сцэне сакавітую дзею, што ўвабрала ў сябе, лічы, усю японскую тэатральную традыцыю. Адным з арганізатараў гастроляў з’яўлялася Таварыства “Беларусь – Японія”, што дзейнічае ў складзе Беларускага таварыства дружбы.



Аднак, як высветлілася, нейкая частка мінскай публікі аказалася зусім не падрыхтаванай належным чынам успрыняць ды плённа асіміляваць імклівую плынь японскае аўтэнтыкі. Прыняты на “ўра” з дзіцячай непасрэднасцю сцэнічны пэрфоманс “Мандзюсака” выклікаў цэлы шэраг “навошта” і “чаму” з вуснаў больш-менш сталых ды звыклых да рацыянальнасці тэатралаў. І гэта натуральна, бо фактычна наяўны прарыў беларуска-японскіх стасункаў, у першую чаргу культурных, пакуль яшчэ надта сціпла падрыхтаваны інфармацыйна. З гэтай нагоды і ўзнікла задума стварэння агульнага агляду найбольш важных момантаў японскае тэатральнае эстэтыкі.

Адна з яскравых асаблівасцей традыцыйнае японскае культуры цалкам — вельмі моцная стылёвая вытрыманасць. Не выключэнне тут і тэатр. Гэтак жа сама, як і класічны жывапіс, дызайн, паэзія ці проза, аўтэнтычнае тэатральнае мастацтва Японіі ўсімі сваімі канонамі падкрэслівае, нібыта прагаворвае ўслых галоўныя рысы глыбіняў нацыянальнага светапогляду. У выніку, каб адчуць подых усіх накірункаў мастацкага свету краіны, часам дастаткова зразумець, асіміляваць, пражыць душой усяго тры радкі старога японскага хоку. Таму пададзеныя далей найбольш важныя моманты і рысы эстэтыкі тэатра могуць быць плённа экстрапаляваны чытачом і на іншыя галіны класічнага японскага мастацтва.

Еўрапейская культура апошніх двух тысячагоддзяў фарміравалася на антычным субстраце. Ролю падобнага субстрата для культуры японскае грала старажытнакітайская цывілізацыя. Акрамя гэтага фіксуюцца даволі значныя ўплывы і культуры старажытнае Індыі. Аднак першапачаткова чужы матэрыял у наступныя стагоддзі быў настолькі моцна асіміляваны, перапрацаваны ці, наадварот, захаваны ў амаль некранутым арыгінальным выглядзе, што сёння можна адна-

значна казаць аб самастойнай, суцэльнай культуры Японіі, якая ёсць адной з найкаштоўных частак сусветнае культурнае спадчыны.

Асноўныя чыннікі стаўлення і фарміравання арыгінальнага тэатра — у першую чаргу астраўная і палітычная ізаляцыя дзяржавы на працягу многіх стагоддзяў, прыродная разнастайнасць з нагоды мерыдыянальнае выцягнутасці ланцуга Японскіх астравоў ад умеранага пояса да тропікаў і вулканічнага паходжання саміх астравоў, уплыў першапачатковай тыбульскай культуры айну, наяўнасць этнаграфічных адрозненняў шматлікіх астравоў (у сённяшняй Японіі іх больш за чатыры тысячы). Неабходна, мабыць, дадаць яшчэ адзін чыннік, асабліва важны пры аналізе з гледзішча беларускае культуры — вельмі моцная культурнагістарычная памяць. Трэба пагадзіцца, што захаваць амаль у некранутым выглядзе, без грубых стылізацый спевы і танцы амаль тысячагадовае даўнасці — мала каму пад сілу ў межах усяе Еўропы.

Самыя глыбокія карані японскага тэатра прасочваюцца, безумоўна, у пракаветных рытуальных спевах ды танцах, створаных у лоне старажытнае язычніцкае пракультуры. Ад самага пачатку ў фармальных рэлігійных рытуалах менавіта танец робіцца іх асноўнай формай. Некаторы час танцаваць было прывілеем толькі святарскага сану ды храмавых служак. Гэта тлумачылася неабходнасцю мець адпаведную харызму, божае наканаванне, каб выконваць гэткую высокую справу, як танец.

Крыху пазней, з ростам колькасці насельніцтва і павышэннем ягонае рэлігійнае культуры, культавыя танцы выйшлі за межы храмаў з мэтаю асвячэння штодзённае працы ды духоўнага стымулявання яе эфектыўнасці. Тэатральныя дзеі таго часу — фактычна супольная малітва. У выніку падзел (не фармальны, а прынцыповы) на выканаўцаў і гледачоў не адбываўся, бо ўсе ўдзельнікі былі аднолькава зацікаўлены ў выніковасці сваёй працы. Менавіта ў гэты час і заклаўся адзін з галоўных прынцыпаў японскага тэатра — прынцып “саўдзелу”. Не кожны, безумоўна, мог прыняць непасрэдны ўдзел у касцюмаванай дзеі на адмысловым памосце пасярод залітага вадой рысавага палетка. Але ўсе імкнуліся па меньшай меры выкрыкамі ды апладысментамі адзначыць свой удзел у агульным малітоўным дзеянні.

Далейшая эвалюцыя “саўдзелу” адбывалася шляхам павышэння значнасці ўнутранага духоўна-эмацыянальнага дзеяння гледача. Гэта спарадзіла выразную недамоўленасць, вельмі вялікую ступень умоўнасці, практычна поўную адсутнасць суцэльнага сюжэтнага шэрага як адметнае рысы нацыянальнага тэатра ўвогуле, які прадугледжвае моцную ўнутраную “дапрацоўку” сцэнічнага матэрыяла гледачом. Пры гэтым стрыжнем, галоўнай ніткай сцэнічнага дзеяння робіцца настрой, эмацыянальны напрамак, духоўная суцэльнасць. Прычым менавіта апошняй надаецца вельмі вялікае значэнне, бо сам тэатральны перфоманс у першую чаргу разумеецца не як сродак эстэтычнага задавальнення, а як духоўная каштоўнасць. Невыпадкова доўгі час напярэдадні і на пачатку сярэднявякоўя тэатральныя дзеі выконваліся ў якасці даніны ўладарам.

Адной з першых самастойных тэатральных школ Японіі быў тэатр гігаку, вядомы з VII ст. Менавіта ў гэты час танцавальныя нумары гігаку, што значыць

“акцёрскае мастацтва”, былі ўведзены ў рытуал будыйскіх манастыроў тагачаснае Японіі. Спектаклі, складзеныя з асобных нумароў, уяўлялі з сябе музычныя пантамімічныя фарсы, поўныя адпаведнай сімволікі рэлігійнага ці, часам, гістарычнага кшталту. Паходжанне гэтага накірунку паўднёвакітайскае, але пры больш пільным разглядзе выразна прасочваюцца і іншыя карані. Так, тэатр гігаку выкарыстоўваў у сваіх спектаклях маскі, вырабленыя з дрэва і пакрытыя лакам (захаваліся іх выдатныя ўзоры VIII ст., а магчыма, і больш ранняга часу). Аднак кітайская культура не ведала масак, значыцца, традыцыя іх выкарыстання прыйшла з Індыі, як найбольш блізкага цэнтра распаўсюджання маскавае культуры. Але рысы твараў, адлюстраваных на масках гігаку, не толькі не маюць нічога агульнага з японскім тыпам, але ўвогуле нехарактэрныя для традыцый Усходу. Пры гэтым здзіўляе ўзровень падабенства азначаных масак да адпаведных, вядомых з тэатральнай культуры старажытнае Грэцыі! Дадзены факт яшчэ не атрымаў дакладнага тлумачэння, але не выключана мажлівасць пэўных культурных кантактаў або, па меншай меры, уплываў.



З сярэдзіны VIII ст. месца гігаку на святах у будыйскіх манастырах паступова займае тэатр бугаку, што перакладаецца як “танцавальнае мастацтва”. Гэты жанр старадаўняга тэатральнага мастацтва, які, дарэчы, захаваўся да цяперашняга часу, не выкарыстоўваў сцэнічную мову ў прынцыпе, што рабіла ягоныя прадстаўленні цалкам музычна-танцавальнымі. Танцы самага рознага тэмпу і характару, пад час якіх таксама часам выкарыстоўваліся маскі (але гэта ўжо не было выключным патрабаваннем), мелі даволі шырокую геаграфію паходжання — Кітай, Карэя, Філіпіны, Зондскія астравы.

Важная асаблівасць тэатра бугаку — ягоная музычная складаючая. Усе танцы гэтага жанру суправаджаюцца вельмі своеасаблівай музыкай гагаку. Галоўная яе рыса — поліфанічнасць, выкарыстанне вялікай колькасці інструментаў, складаная партытура. Усё гэта было шырока развіта ўжо ў VIII–IX стст., але чамусці гагаку не зрабілася асновай стварэння нацыянальнае японскае музыкі, якая пайшла па шляху монафанічнасці. Толькі сёння адбываецца вяртанне да гагаку, якое нарэшце даследуецца на высокім акадэмічным узроўні і прафесійна выкладаецца ў кансерваторыі і іншых адпаведных навучальных установах Японіі.

Далейшае развіццё жанраў і традыцый японскага тэатра адбываецца нібы па схеме. Новая тэндэнцыя ўзнікае ў простанароддзі, паступова прафесіяналізуецца, набывае грамадскі статус і нарэшце робіцца кананізаваным, элітным, прыдворным мастацтвам. У процівагу яму нараджаецца новая плынь, і кола замыкаецца.

Так, на месца бугаку, што з часам робіцца палацавым тэатрам, з Цэнтральнае Азіі прыходзіць саругаку (або сангаку). Гэты накірунак ужо не быў жорстка прывязаны да храмавых установ і аб'ядноўваў як танцавальна-музычны, так і мімічны элементы. Акрамя гэтага ў сцэнічнае дзеянне ўводзілася жывая мова. У XIV ст. ужо пасталелы саругаку трапляе пад асабісты патранаж аднаго з сёгунаў (вярхоўных вайсковых валадароў). У выніку адбываецца нараджэнне тэатра ногаку (або проста но ці ноо), які з часам набывае статус аднаго з найбуйнейшых нацыянальных тэатральных жанраў.

Асноўныя прынцыпы класічнага тэатра ноо — прынцып пераймання, прынцып патаемнае сутнасці і схаванае прыгажосці. Перайманне, як адзін з галоўных прыёмаў акцёрскага майстэрства ноо, не толькі не ёсць натуралізм, але поўная ягоная процілегласць. У дадзеным выпадку перайманне разумеецца апасродкавана, не як наследаванне формы, а як наследаванне ўнутранага, патаемнага сэнсу рэчаў і дзеяў. Асноўны сродак пераймання — аналогія, вобраз, сімвал.

Прынцып "саўдзелу" рэалізуецца ў гэтым тэатральным жанры большай часткай стымуляваннем актыўнае працы ўяўлення гледача, што падмацоўваецца поўнай адсутнасцю дэкарацый, у вышэйшай меры сціплым арсеналам рэквізіту. Адзін веер у залежнасці ад патрэб можа адлюстроўваць меч, аркуш паперы, парасон, вясло… З другога боку, знешняе дэманстраванне эмоцый не віталася, бо дзейнічалі жорсткія патрабаванні прыдворнага этыкету. Так, той, хто не здолеў вытрымаць ды ад залішку ўражанняў распачаў апладысменты пад час спектакля, быў павінны па заканчэнню прасіць за гэта прабачэння ў акцёраў і гледачоў.

Адзінае і абавязковае ўпрыгожанне сцэны тэатра ноо — заднік з выявай свяшчэннае японскае сасны на фоне залатога неба. Гэтая традыцыя сягае сваімі каранямі да больш старадаўніх жанраў, калі дзеянне адбывалася з нагоды вялікіх святаў на пляцоўцы вакол славутай сасны храма Касуга-дзіндзя.

Прыдворны стан тэатра ноо наклаў значны адбітак на тэматыку і характар ягонага рэпертуару. З цягам часу выкрышталізаваліся пяць асноўных накірункаў. Гэта — усхваленне персанажаў будыйскага пантэона; мужчына-ваяр; жаночы лёс; вар'яцтва ад гора; замагільны свет і дэманы. Трэба таксама дадаць, што рэальнай асновай стварэння ўсіх кананічных п'ес было мінулае імператарскіх дынастый. Паступова правамоцнай часткай перфомансу ноо становяцца і вясёлыя інтэрмедыі-фарсы кёгэн. Спачатку яны забаўлялі публіку ў чаканні пачатку асноўнай дзеі, але пазней самі ўвайшлі арганічнай часткай у структуру спектакля. Тэматыка кёгэн бытавая, фактычна пазбаўленая класічнай накіраванасці. Да таго ж прыбліжанасць да побытавасці нараджае значную рэалістычнасць акцёрскае ігры, неўласцівую для іншых плыняў японскага тэатра.

Народнай альтэрнатывай палацавай культуры ноо робіцца ў XVII ст. новы тэатральны жанр кабукі. Гэты накірунак увабраў у сябе фактычна ўвесь арсенал эстэтычных сродкаў, назапашаных шматлікімі школамі і тэндэнцыямі японскага тэатральнага мастацтва. Менавіта ў межах кабукі адбылася канчатковая крышталізацыя, поўнае праяўленне ў чыстым выглядзе тых падыходаў, погля-

даў і прыёмаў, з якімі сёння шмат для каго асацыіруецца само паняцце японскага тэатра.

Тэатр кабукі ўзнік і пачаткова фарміраваўся як вясёлы пацяшальны перфоманс, прызначаны весяліць вулічны натоўп старога Эда (цяпер Токіо). Гэта фактычна масавае мастацтва японскага сярэдневякоўя, дастаткова сур'ёзнае, але незалежнае, здольнае дазволіць сабе пацяшальнасць, памежную з разбэшчанасцю. Гэта мастацтва роўна адкрытае для ўсіх, бо ад пачатку высакародны самурай і просты селянін былі роўныя ў глядзельнай зале (а раней проста на вуліцы вакол імправізаванай сцэны) кабукі. Гэта тэатр, для якога толькі рэакцыя публікі заўсёды была адзінаю меркай і адзнакай.



У адрозненне ад еўрапейскае тэатральнае традыцыі, якая ў аснову тэатра ад пачатку кладзе драматургію, японскі тэатр заўсёды больш цікавіў момант акцёрскага майстэрства. Прычына тут, безумоўна, у слабой сутнаснай дэсакралізацыі сцэнічнае культуры Японіі. У выніку першае месца займае пантаміма, выціскаючы драматычны момант на другі (у лепшым выпадку) план. Такім чынам, у цэнтр увагі культуры кабукі трапляе выканаўчае мастацтва, ці гэйдо. Дакладны пераклад гэтага слова — “шлях мастацтва”, што паказвае на пачатковую закладзенасць у гэта паняцце ідэі самаўдасканалення. Як вынік — утварэнне буйных акцёрскіх дынастый, дзе родавыя таямніцы майстэрства перадаюцца праз пакаленні.

Любая дзея кабукі — свята прыгажосці ў самым шырокім разуменні. Але перадача самае гэтае прыгажосці ад акцёра да гледача адбываецца не напрамую, а ў значнай ступені апасродкавана. Як, скажам, радыёпрыёмнік успрымае з эфіру высокачастотную радыёхвалю, а не сам гукавы сігнал, гэтак жа і глядач кабукі павінен адчуць не саму прыгажосць, а яе настрой. Менавіта перадача адпаведнага настрою з'яўляецца канчатковай мэтай кожнага спектакля.

Другі важны прынцып эстэтыкі кабукі заключаны ў тым, што сцэнічная дзея ўяўляе нібыта знарок хаатычную мазаіку з асобных знічак прыгажосці. Прычым момант разумовага, рацыянальнага іх сінтэзавання адсутнічае прынцыпова. Не адзіная думка, не адзіная сюжэтная лінія, не адзіная ідэя яднае п'есу кабукі, а адзіная рафінаваная эмоцыя. У выніку нараджаецца адна з самых характэрных асаблівасцей тэатра — поўная адсутнасць інтэлектуальных сімвалаў і абстракцый.

Любы тэатр ёсць свайго роду адбітак рэальнасці. Але розныя школы і напрамкі карыстаюцца сваімі адрознымі ад іншых сродкамі яе перадачы. Што

тычыцца кабукі, то тут галоўным у творчым працэсе робіцца не капіраванне рэчаіснасці, а перадача яе жывапіснасці. Прычым часам пры стварэнні гэтай жывапіснасці прыходзіцца ахвяраваць натуральнасцю, што таксама з'яўляецца своеасаблівай рысай кабукі.

Калі працягваць пералік сутнасных тэхнічных прыёмаў кабукі, дык нельга не звярнуць увагу на славутыя пераапрананні. Увогуле пышныя, багатыя касцюмы, якія жывуць на сцэне ледзьве не самастойным жыццём, — важная частка эстэтыкі кабукі. Да сярэдзіны мінулага стагоддзя кожны акцёр самастойна ствараў касцюмы для сваіх персанажаў, але і сёння касцюм нясе шматлікія індывідуальныя рысы. Колеры і стылёвыя асаблівасці касцюмаў кабукі — асобная старонка яго складанай сімволікі. Таму дынаміка сцэнічнае дзеі міжволі прыводзіць да неабходнасці змен і ў вопратцы. У выніку былі выпрацаваны тры асноўныя прыёмы, якія падкрэсліваюць змены ў настроі ці характары герояў. Так, вылучаюць хікінукі, або скіданне верхняй вопраткі (трэба зазначыць, што колькасць адначасова апранутых кімано можа дасягаць дзесяці і нават болей); букаэры, ці імгненнае выварочванне касцюма проста на акцёры, і хададугі, або вызваленне ад верхняга адзення аднаго ці абодвух плечаў. Эфект, да якога імкнуцца шляхам названых прыёмаў, цалкам адпавядае азначаным раней асноўным прынцыпам тэатра кабукі.

Шалёнае XX ст. закранула сваімі віхурамі і тэатр Краіны ўзыходзячага сонца. Узніклі новыя накірункі, якія супярэчылі адвечнай замкнёнасці і ізаляванасці культурнага жыцця краіны, спрабавалі абмінуць тыя ўнутраныя канфлікты, што хаваліся ў нетрах традыцыйных жанраў. Так нарадзіліся жанры сінгэкі, сімпа, сінкакугэкі… Нехта шукаў выйсце ў пераходзе на еўрапейскі манер, нехта спрабаваў знайсці свой асабісты шлях. Пра выніковасць гэтых пошукаў раскажа час, але гэта ні ў якім разе не робіць меншай значнасць магутнай і непаўторнай гамы тэатральных жанраў старой Японіі.

***

Дабрачынныя гастролі тэатральнае трупы "Мандэюсака", што адбыліся ў Беларусі, — безумоўна, з'ява незвычайная. Фактычна ўпершыню мы мелі магчымасць непасрэдна пазнаёміцца з багатымі і незвычайнымі традыцыямі японскага тэатральнага мастацтва. Але нават не гэта галоўнае. Галоўным пунктам маршрута быў якраз не Мінск, а напаўпакінутыя вёскі забруджаных Чарнобылем рэгіёнаў Беларусі. Гэта была сапраўды гуманітарная дапамога тым дзеткам, што з дзяцінства вымушаны напітвацца радыяцыйным пылам і безвыходнасцю. Здаўна сцэнічная дзея японскага тэатра была малітвай. Сёння гэтая адвечная малітва два тыдні гучала ў васьмі тысячах кіламетраў ад сваёй радзімы на нашай зямлі як сімвал бязмежнасці чалавечае любові і спагады. Дзякуй, "Мандзюсака"!

***Мікалай Абрапальскі, Андрэй Захарэнка*** *(Мінск)*

## СТАРОНКІ БУДУЧАГА ДАВЕДНІКА

### БАЛАХОВІЧ ХРЫСЦІНА



***Балаховіч Хрысціна*** *(18.09.1959, Вільнюс), мастачка, беларускі грамадскі дзеяч.*

Х. Балаховіч закончыла Вільнюскую мастацкую акадэмію па аддзяленню жывапісу. Яна выстаўляецца ў розных галерэях, удзельнічае ў выстаўках у Вільнюсе, краінах Балтыі, Польшчы, Беларусі. Мастачка працуе над нацюрмортамі, пейзажамі, якія сама называе "ціхім жыццём". Яе карціны — адлюстраванне краявідаў роднай Віленшчыны, захапленне прыгажосцю і разнастайнасцю прыроды. Пэўны час Х. Балаховіч была вядучай беларускай праграмы на Літоўскім тэлебачанні. Працуе таксама ў галіне мультыплікацыі. Вядзе гурток малявання ў беларускай школе імя Ф. Скарыны ў Вільнюсе. Ілюструе кнігі, аформіла серыю канвертаў і паштовак. Паспяхова займаецца перакладамі з беларускай і літоўскай моваў.

Х. Балаховіч прымае актыўны ўдзел у грамадска-культурным жыцці беларускай дыяспары ў Вільнюсе, прапагандуе ідэі адраджэння і захавання беларускай культуры ў Літве. Уваходзіла ў Раду "Саюдзіса". Прымала ўдзел у розных культурных мерапрыемствах, якія праводзіліся ў Мінску. Яна — сябра суполкі беларускіх мастакоў "Маю гонар", якую ўзначальвае Вячка Целеш. Узнагароджана былым прэзідэнтам Літвы Альгірдасам Бразаўскасам медалём. Жыве і працуе ў Вільнюсе.

***Леакадзія Мілаш*** *(Вільнюс)*

# КУЗНЯЦОЎ СЯРГЕЙ

***Кузняцоў Сяргей Юр'евіч*** *(19.11.1961, Рыга), урач, доктар медыцынскіх навук, беларускі грамадскі дзеяч, старшыня Рады Таварыства "Світанак".*

С. Кузняцоў паходзіць з беларускай сям'і. Яго продкі па мацярынскай лініі родам з Гомеля. Любоў да беларускай мовы, культуры абудзілася ў хлопчыка пад уплывам бабулі, да якой ён прыязджаў у час канікул. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Рызе. Пасля заканчэння ў 1985 г. Рыжскага медыцынскага інстытута працуе ў навуковай медыцынскай лабараторыі БІАЛАТ. Займаецца навукова-даследчыцкай работай у галіне анкалогіі, распрацоўвае і выпрабоўвае новыя лекі для прафілактыкі і лячэння рака. С. Кузняцоў — аўтар 120 навуковых артыкулаў і шэрагу кніг на латышскай, рускай, англійскай і нямецкай мовах у галіне лячэння анкалагічных захворванняў. Двойчы названы ў дзесятцы лепшых даследчыкаў рака ў Еўропе. З'яўляецца лаўрэатам міжнародных прэмій за распрацоўку унікальных метадаў прафілактыкі і лячэння рака.



С. Кузняцоў актыўна займаецца грамадскай дзейнасцю на ніве адраджэння беларушчыны ў Латвіі. Ён адзін з заснавальнікаў Латвійскага таварыства беларускай культуры "Світанак" у Рызе, якое ўзначальваў з 1988 да 1994 г. Працаваў вядучым беларускай праграмы "Світанак" Латвійскага радыё (1988–1993). У 1993 г. — рэдактар часопіса "Світанак". Артыкулы С. Кузняцова, прысвечаныя пытанням нацыянальнага адраджэння і прапаганды беларускай культуры, перыядычна з'яўляюцца на старонках латвійскіх газет "Padomju Latvija", "Atmoda".

С. Кузняцоў прымаў удзел у I з'ездзе беларусаў свету, быў дэлегатам I з'езда Народнага фронта Беларусі "Адраджэньне". У 1989 г. выбраны дэпутатам Рыжскага гарсавета. З'яўляецца сябрам Амерыканскай асацыяцыі хіміятэрапіі і Нью-Йоркскай акадэміі навук. Удзельнік міжнародных навуковых канферэнцый і сімпозіумаў у Японіі, Кітаі, Тайландзе, Францыі, Англіі, Канадзе, ЗША і інш. краінах.

***Вячка Целеш*** *(Рыга)*

## МЕКІН ЧЭСЛАЎ



***Мекін Чэслаў Іванавіч*** *(3.11.1930, в. Стасіна былога Ашмянскага пав., месцазнаходжання не ідэнтыфікавана), грамадскі дзеяч.*

Ч. Мекін нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў сярэднюю школу ў Астраўцы (1950) і Віленскі чыгуначны тэхнікум (1956). Працоўную дзейнасць пачаў у 1956 г. тэхнікам на чыгунцы ў г. Вічуга Іванаўскай вобл. Затым працаваў у Маладзечне і Вільнюсе, дзе неаднаразова сустракаўся з У. Караткевічам. У 1967 г. пераехаў з сям'ёй у Польшчу. Жыў у Калабжэгу, пасля ў Гданьску. Працаваў на чыгунцы, з 1990 г. – на пенсіі. З 1994 г. з'яўляецца намеснікам старшыні Беларускага культурнага таварыства "Хатка" ў Гданьску. Прымаў удзел у арганізацыі розных культурных мерапрыемстваў беларускай дыяспары, I і II з'ездах беларусаў свету.

***Лена Глагоўска*** *(Гданьск, Польшча)*

## ТАТАРЫНОВІЧ ПЁТР



***Татарыновіч Пётр Станіслававіч*** *(2(15).06.1896, в. Гайнін Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Ляхавіцкі р-н Брэсцкай вобл. – 3.09.1978, Рым), беларускі святар, грамадскі і культурны дзеяч, публіцыст, паэт, выдавец. Доктар тэалогіі (1950).*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі ў Слуцку вучыўся ў каталіцкай семінарыі ў Петраградзе, скончыў Мінскую духоўную семінарыю. 12 чэрвеня 1921 г. рукапаложаны ў святары. Займаўся рэлігійнай дзейнасцю ў Пінску (1921–1922), Навагрудку (1922–1924). У 1924–1926 гг. з'яўляўся прэфектам пачатковых і сярэдняй школ у Баранавічах. П. Татарыновіч арганізаваў там Саюз каталіцкай моладзі, пабудаваў школь-

ную каплічку. У пакаранне за актыўную патрыятычную работу сярод беларускай моладзі быў пераведзены на Мазуры. Пасля вяртання служыў у Дамачаве Брэсцкага павета (1927–1932), дзе аднавіў касцёл, пабудаваў плябанію, каталіцкі народны дом. У 1932–1939 гг. спрыяў пашырэнню уніяцтва на Століншчыне (Гарадная, Альпень, Мерлінскія хутары). Праследаваўся польскімі свецкімі і царкоўнымі ўладамі. П. Татарыновіч друкаваўся на старонках рэлігійнага часопіса "Да злучэння" і іншых заходнебеларускіх выданняў. Перакладаў на беларускую мову творы дацкага паэта І. Ёргенсена (у 1926 г. у Вільні выдаў яго рэлігійна-філасофскі нарыс "Прыпавесці"). П. Татарыновічу належыць аўтарства выдадзеных у Вільні (пад псеўданімам Пётр Задума) кніг "Святы Ізідар хлебароб" (1928), "Купалле" (1930), "Шляхам дзіваў і ўражанняў" (1934).

У час Другой сусветнай вайны супрацоўнічаў з Беларускім камітэтам у Варшаве. Там жа выкладаў рэлігію ў беларускай школе, займаўся душпастырскай працай у базыльянскім касцёле св. Марціна. З Варшавы пераехаў у Вільню, потым — у Мінск. Выступіў з прамовай на Другім Усебеларускім кангрэсе 27 чэрвеня 1944 г.

У канцы вайны П. Татарыновіч апынуўся ў эміграцыі. У лютым 1945 г. пераехаў з Ратэнбурга (Германія) у Рым. Вучыўся ў Папскім інстытуце ўсходніх навук (1945–1949). Абараніў доктарскую дысертацыю "Святы Кірыла, біскуп Тураўскі, і ягонае вучэнне". З 1949 да 15 студзеня 1971 г. быў кіраўніком і асноўным аўтарам беларускіх перадач Радыё Ватыкана. Займаўся выдавецкай справай. Надрукаваў па-беларуску малітоўнік "Голас душы" (1949), "Сьвятая Эванэлія і Апостальскія Дзеі" (1954), "Лісты Сьвятых Апосталаў" (1974), "Пакутныя Псальмы" (1964, вершаваны пераклад Я. Германовіча), "Наўзорную (першую) Імшу Сьвятую літургію" (1965, 1966) і інш. Некаторыя яго творы апублікаваны на італьянскай мове. Пераклаў на беларускую мову і выдаў у 1956 г. раман Г. Сянкевіча "Quo vadis?". З верасня 1950 да 1975 г. рэдагаваў і друкаваў у Рыме лацінкай беларускі рэлігійна-грамадскі часопіс "Зьніч" (усяго выйшла 120 нумароў). 26 мая 1961 г. Апостальскі пасад надаў яму званне прэлата, а ў чэрвені таго ж года прызначыў сябрам Найвышэйшай рады для эміграцыі. На П. Татарыновіча была ўскладзена адказная задача — апекавацца над беларусамі-католікамі ў эміграцыі. 21 студзеня 1964 г. ён быў зацверджаны дырэктарам місіянераў для эмігрантаў-беларусаў лацінскага абраду. Прыхільнік беларусізацыі царкоўнага жыцця. За высокі інтэлект, маральныя якасці, самаахвярную адданасць рэлігійным і нацыянальна-культурным каштоўнасцям вучні, вернікі, сябры-аднадумцы і знаёмыя называлі яго "чалавекам ідэі". Праз усё жыццё ён застаўся верным прынцыпу "для Хрыста і Бацькаўшчыны".

***Аляксандр Вабішчэвіч*** *(Брэст)*

# ТРАФІМУК АНДРЭЙ

***Трафімук Андрэй Аляксеевіч*** *(16.08.1911, в. Хведкавічы Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер в. Федзькавічы Жабінкаўскага р-на Брэсцкай вобл., – 24.03.1999, Новасібірск, Расія), геолаг-нафтавік, арганізатар навукі, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1958, член-карэспандэнт з 1953), акадэмік Расійскай АН (1991), прафесар (1969). Адзін з заснавальнікаў Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР (1946, 1950) і Дзяржаўнай прэміі Расійскай Федэрацыі (1994), Герой Сацыялістычнай Працы (1944). Ганаровы грамадзянін Новасібірска.*



Нарадзіўся А. Трафімук у збяднелай сялянскай сям'і. У 1933 г. скончыў геалагічны факультэт Казанскага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў старшым геолагам, навуковым кіраўніком трэста "Усходнафта" (1934–1940), галоўным геолагам аб'яднання "Башнафта" (1940–1950). У 1950–1953 гг. — галоўны геолаг Галоўнафтаразведкі, у 1953–1957 гг. — намеснік дырэктара, дырэктар Усесаюзнага нафтагазавага навукова-даследчага інстытута. З 1957 г. працаваў у Сібірскім аддзяленні Акадэміі навук СССР (з 1991 г. — Расійскай АН), у 1958–1961 гг. быў намеснікам, з 1961 да 1988 г. — першым намеснікам старшыні Сібірскага аддзялення АН СССР. На гэтай пасадзе ён прыклаў вялікія намаганні для арганізацыі і станаўлення навуковых цэнтраў Сібірскага аддзялення Акадэміі навук у розных сібірскіх рэгіёнах, у вызначэнні і ажыццяўленні стратэгіі развіцця навукі ў Сібіры. Арганізаваў і больш за 30 гадоў, з 1957 да 1988 г., узначальваў Інстытут геалогіі і геафізікі (з 1990 г. — Аб'яднаны інстытут геалогіі, геафізікі і мінералогіі Расійскай АН), з 1988 г. быў ганаровым дырэктарам і галоўным спецыялістам гэтага інстытута. З 1961 г. — член Прэзідыума АН СССР, з 1992 г. — саветнік Прэзідыума РАН.

А. Трафімук — спецыяліст у галіне геалогіі нафты і газу. Ён аўтар больш за 1100 навуковых прац па праблемах фарміравання радовішчаў нафты і газу, павышэння эфектыўнасці пошуку нафты і газаздабычы. Сярод асноўных навуковых прац — кнігі "Нафтагазаноснасць палеазоя Башкірыі" (М., 1950), "Нафтагазаносныя басейны Далёкага Усходу СССР" (М., 1971), "Урала-Паволжа — новая нафтавая база Сібіры" ( М., 1975), "Геалогія нафты і газу Заходняй Сібіры" (М., 1975), "Геалогія нафты і газу Сібірскай платформы" (М., 1981), "Праблемы нафты і газу" (М., 1983), "Сорак гадоў барацьбы за развіццё нафтагазавай прамысловасці Сібіры" (Новасібірск, 1998). Стаў першаадкрывальнікам шэра-

гу буйнейшых радовішчаў Волга-Уральскай нафтагазаноснай правінцыі — так званага “другога Баку”, якія забяспечылі ў час Вялікай Айчыннай вайны бесперапыннае паступленне нафты на фронт. За гэта А.Трафімук у 1944 г. першым сярод геолагаў былога СССР быў удастоены звання Героя Сацыялістычнай Працы. Быў гарачым прыхільнікам пошукаў сібірскай нафты. Яго навуковыя прагнозы пацвердзіліся адкрыццём нафтагазаносных правінцый сховішчаў у Заходняй Сібіры і ўжо некалькі дзесяцігоддзяў тут дзейнічае найбуйнейшы ў Расіі Заходне-Сібірскі нафтавы комплекс. Даказаў вялікія магчымасці выяўлення і асваення новых нафтагазаносных правінцый Усходняй Сібіры. З яго імем звязана адкрыццё невядомай раней прыроднай з’явы — цвёрдага прыроднага газу ў выглядзе газагідратаў, запасы якіх на планеце, па яго ацэнцы, у дзесяткі разоў перавышаюць рэсурсы звычайных газавых радовішчаў. За гэтыя работы А. Трафімук быў удастоены ў 1974 г. прэміі АН СССР імя І. Губкіна, а ў 1994 г. — Дзяржаўнай прэміі Расійскай Федэрацыі.

Глыбокая ўпэўненасць А. Трафімука ў неабходнасці найбольш поўнага выкарыстання прыродных багаццяў і энергетычных рэсурсаў Сібіры дзеля павышэння эканамічнага патэнцыялу краіны была рэалізавана ў яго рабоце па стварэнню рэгіянальнай навукова-даследчай праграмы “Сібір”, навуковым кіраўніком якой ён быў амаль 15 гадоў і вакол якой згуртоўваў навуковыя сілы Сібіры незалежна ад іх ведамаснай падпарадкаванасці. На пасадзе старшыні Навуковага савета па Байкалу ён настойліва абараняў захаванне чысціні унікальнага возера. Абараніў права Новасібірска на будаўніцтва першага ў Сібіры метро.

Унёс значны ўклад ў падрыхтоўку навуковых кадраў геолагаў-нафтавікоў. На працягу 1962–1973 г. узначальваў кафедру карысных выкапняў Новасібірскага дзяржаўнага універсітэта, у 1969 г. быў абраны прафесарам. Шырокае прызнанне ў свеце набыла сібірская школа геолагаў і геафізікаў-нафтавікоў, якую ён стварыў. А. Трафімук цікавіўся геалогіяй Беларусі, асабліва станам нафтавай геалогіі і нафтаздабываючай прамысловасці. Неаднаразова наведваў родную Беларусь, кансультаваў тут многіх вучоных, удзельнічаў у экспертызах, прысвечаных праблемам разведкі нафты на тэрыторыі Беларусі.

А. Трафімук актыўна ўдзельнічаў ў дзяржаўным і грамадскім жыцці. Больш за паўвека працаваў у саветах народных дэпутатаў ва Уфе, Маскве, Новасібірску, быў дэпутатам Вярхоўнага Савета РСФСР 6-га, 7-га, 8-га і 10-га скліканняў, выбіраўся ў партыйныя органы, дэлегатам XXIV, XXVI і XXVII з’ездаў КПСС. Узнагароджаны шасцю ордэнамі Леніна, ордэнамі Кастрычніцкай рэвалюцыі і Працоўнага Чырвонага Сцяга, шматлікімі медалямі.

А. Трафімук выступаў супраць разбуральных працэсаў, што праходзілі ў Расіі апошнім часам, супраць незапатрабаванасці навукі, яе вынікаў дзяржавай. У знак пратэсту адмовіўся прыняць ордэн “За заслугі перад Айчынай”, якім ён быў узнагароджаны ў 1998 г.

***Наталля Прытвіц** (Новасібірск), **Вольга Гапоненка***

# ХВІСЮК МІКАЛАЙ

***Хвісюк Мікалай Іванавіч*** *(1934, в. Варацэвічы Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл.), вучоны-медык, заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Украіны, прафесар.*

М. Хвісюк нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння сямігодкі паступіў у Пінскую фельчарска-акушэрскую школу, а ў 1953–1958 гг. вучыўся ў Віцебскім медыцынскім інстытуце, пасля чаго пачалася яго працоўная дзейнасць на пасадзе галоўнага ўрача санаторыя "Домрачава" на Брэстчыне. З 1963 г. вучыўся ў аспірантуры Харкаўскага інстытута ўдасканалення ўрачоў. Фактычна з гэтага часу яго лёс звязаны з Украінай. Працаваў асістэнтам кафедры траўматалогіі і артапедыі, дацэнтам, намеснікам дырэктара па навуцы Харкаўскага НДІ траўматалогіі і артапедыі ім. М. Сітэнкі, з 1977 г. — рэктар Харкаўскага інстытута ўдасканалення ўрачоў. Прафесар М. Хвісюк — вучоны з арыгінальнымі навуковымі поглядамі па многіх тэарэтычных і клінічных пытаннях траўматалогіі і артапедыі. Ён з'яўляецца заснавальнікам адной з буйных навуковых школ у галіне артапедыі пазваночніка (вертэбралогіі), ім распрацаваны шэраг новых навуковых напрамкаў па гэтай спецыяльнасці. М. Хвісюк з'яўляецца аўтарам 252 навуковых прац, у тым ліку 6 манаграфій, і 52 вынаходніцтваў. Пад яго кіраўніцтвам абаронены 32 кандыдацкія і 5 доктарскіх дысертацый.



У 1995 г. прызначаны членам Бюро Паўночна-ўсходняга цэнтра НАН Украіны. Шмат гадоў быў намеснікам Харкаўскай абласной комплекснай праграмы "Здароўе", у 1996 г. зацверджаны саветнікам-экспертам Камісіі па радыяцыйнай абароне насельніцтва Украіны. У 1997 г. Міжнародным біяграфічным цэнтрам Кембрыджа (Англія), а ў 1998 г. Амерыканскім біяграфічным інстытутам прызнаны чалавекам года за заслугі ў галіне медыцынскіх навук. На працягу 22 год працуе рэктарам Харкаўскай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі, загадвае там кафедрай.

За выдатныя навуковыя дасягненні ў развіцці актуальных праблем лячэння пазваночніка і суставаў М. Хвісюк узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга (1976), Дружбы народаў (1986), пачэснай адзнакай Прэзідэнта Украіны (1996). З'яўляецца галоўным рэдактарам часопіса "Проблемы науки и образования", членам шматлікіх рэдкалегій медыцынскіх выданняў. Абраны правадзейным членам Інжынернай акадэміі Украіны, членам-карэспандэнтам Міжнароднай інжынернай акадэміі.

***Ірына Тамільчык***

## ТЫЧЫНА М. А. АЛЯКСАНДР ПУШКІН І ЯКУБ КОЛАС. Мн.: БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА, 1999. 168 с.

Да 200-гадовага юбілею з дня нараджэння класіка рускай літаратуры Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна прымеркавана мноства разнастайных мерапрыемстваў — правядзенне канферэнцый, сімпозіумаў, "круглых сталоў", творчых абмеркаванняў, дыскусій, паказы новых мастацкіх фільмаў і дакументальных стужак, публікацыя літаратурных і навуковых прац, арганізацыя выставак, вечарын, адкрыццё музеяў, помнікаў і інш., якія ўжо адбыліся ці яшчэ адбудуцца ў розных краінах свету.

Рэспубліка Беларусь таксама прымае досыць актыўны ўдзел у гэтых юбілейных святкаваннях, сведчаннем чаго з'яўляюцца, напрыклад, выданне зборніка "А. С. Пушкін і Беларусь", правядзенне адпаведнай Міжнароднай навуковай канферэнцыі ў Мінску і г. д. У гэтым рэчышчы даволі значнай падзеяй стаў і нядаўні выхад у свет рэцэнзуемага навуковага выдання, прысвечанага разнастайным пытанням творчых узаемадачыненняў дзвюх суседніх літаратур — беларускай і рускай — найперш у асобе іх класікаў і нацыянальных геніяў Аляксандра Пушкіна і Якуба Коласа. Дадзеная кніга разлічана пераважна на спецыялістаў-літаратуразнаўцаў, найперш, зразумела, на пушкіністаў і коласазнаўцаў.

Аўтар манаграфіі — вядомы беларускі літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Міхась Тычына. Яго кніга складаецца з сямі раздзелаў — "Запаветы класікаў", "Перадгісторыя", "Партрэт паэта на сцяне", "Пачатак усіх пачаткаў", "На шырокі прастор", "Поруч з Пушкіным" і "Беларуская Пушкініяна".

У першым раздзеле — "Запаветы класікаў" — аўтар разглядае найбольш значныя здабыткі "беларускай Пушкініяны" на працягу ўсяго XX ст. М. Тычына адзначае, што сярод усіх беларускіх празаікаў і паэтаў, якія цікавіліся творчасцю А. Пушкіна, найбольш блізкія творчыя дачыненні з рускім класікам склаліся менавіта ў Якуба Коласа, які да багатай спадчыны свайго славутага папярэдніка звяртаўся шмат разоў на працягу амаль усяго свайго жыцця. На думку аўтара, гэты факт у гісторыі беларускага мастацтва з'яўляецца адзінкавым і не мае падобных аналагаў.

Выключнае значэнне творчасці Пушкіна для станаўлення Коласа-пісьменніка прама прызнана самім беларускім класікам. У адным са сваіх артыкулаў ён адназначна заявіў, што калі "не было б Пушкіна з яго "Яўгенам Анегіным", "Медным коннікам", "Вольнасцю" і пасланнем "У Сібір", "Капітанскай дачкой" і казкамі, — не было б, напэўна, і маіх паэм "Новая зямля" і "Хата рыбака",

лірыкі і прозы”. Тут, праўда, хацелася б выказаць сваю ўласную думку аб тым, што выдатныя Коласавы творы былі б усё ж напісаны, аднак яны, відаць, хутчэй за ўсё мелі б іншы мастацкі ўзровень, іншыя выгляд, рытміку, аб’ём…

У сваёй кнізе М. Тычына імкнецца да максімальна магчымай аб’ектыўнасці і непрадузятасці пры аналізе творчай спадчыны і асаблівасцей светапогляду двух нацыянальных літаратурных геніяў. Напрыклад, аўтар кнігі не абыходзіць маўчаннем і таго, можа быць, не вельмі прыемнага для нас факта, што Беларусь, беларусы ва ўяўленні Пушкіна з’яўляліся, па сутнасці, неадрыўнай часткай Расійскай імперыі і рускай народнасці, адным са “славянских ручьёв”, тым “народом, издревле нам родным”, за які ў зацятай барацьбе працяглы гістарычны перыяд змагаліся “кичливый лях” и “верный росс”. Або, скажам, у кнізе прама адзначаецца, што ў 1930-я гг. пад уплывам штучна навязанага савецкім пісьменнікам т. зв. “сацыялістычнага рэалізму” ў многіх творах Якуба Коласа заўважалася недастатковая глыбіня ў раскрыцці псіхалогіі сваіх герояў, мела месца своеасаблівая “апалагетыка” савецкай улады і сацыялізму і г. д.




Аўтар кнігі слушна заўважае, што беларускія пісьменнікі-пачынальнікі сярэдзіны – другой паловы XIX ст. (В. Дунін-Марцінкевіч, Я. Баршчэўскі, аўтар паэмы “Энеіда навыварат” В. Равінскі і аўтар паэмы “Тарас на Парнасе” К. Вераніцын і інш.) нярэдка зведвалі ўплывы суседніх літаратур — найперш польскай і рускай. Узмацненне падобных уплываў было ў значнай ступені абумоўлена і асаблівасцямі тагачаснага гістарычнага развіцця народаў, калі ва ўмовах станаўлення нацыянальных літаратур надзвычай важным з’яўлялася творчае засваенне найлепшых здабыткаў іншамоўных культур. І таму невыпадкова, што менавіта на працягу XIX ст., якое на Захадзе ў сувязі з узнікненнем нацыянальнай дзяржаўнасці многіх еўрапейскіх народаў вобразна называлі “вясной народаў”, адбывалася і фарміраванне самабытнай уласна беларускай літаратуры. Прычым сярод мноства іншаэтнічных уплываў на першыя месцы па іх сіле і глыбіні вылучаліся імпульсы, што ішлі з боку польскай і рускай літаратур, якія на той час былі больш развітыя і мелі відавочна “старэйшы ўзрост” у параўнанні з яшчэ зусім маладой беларускай літаратурай. Натуральна, што гэтыя беларускія пісьменнікі-пачынальнікі выбіралі сабе ў якасці творчых настаўнікаў тых літаратараў, мову якіх яны ведалі без перакладчыкаў, — найперш рускую, польскую, украінскую. І далей аўтар кнігі падкрэслівае, што калі б яны добра ведалі і разумелі англійскую, нямецкую ці французскую, то і арыентаваліся б хутчэй за ўсё на іх нацыянальныя літаратуры.

М. Тычына на аснове аналізу разнастайных фактаў сцвярджае, што ў канцы XIX – пачатку XX ст. творы Пушкіна трывала ўвайшлі ў свядомасць не толькі адукаваных колаў беларускага грамадства, але і шырокіх народных мас. Аднак з дадзеным тэзісам досыць цяжка пагадзіцца, бо, як вядома, у тагачасны перыяд каля 90 % насельніцтва Беларусі складалі сяляне, большасць якіх былі непісьменнымі і малаадукаванымі. Таму хутчэй за ўсё вышэйназваную выснову аўтара можна ў пэўным сэнсе лічыць перабольшаннем.

Сярод мноства выдатных рускіх пісьменнікаў, якія на працягу ўсяго жыцця захаплялі Коласа, імя Пушкіна заўсёды займала, безумоўна, першае месца. У кнізе прыводзяцца шматлікія цытаты з розных артыкулаў Якуба Коласа, у якіх ён адзначаў, што ў паэтычнай творчасці Пушкіна яго перш за ўсё захаплялі “сапраўдная народнасць” (дарэчы, менавіта Пушкін увёў ў літаратурны слоўнік тэрмін “народнасць”), “гармонія формы і зместу”, “напеўнасць і лірычнасць”, а многія пушкінскія вершы неаднойчы выклікалі ў ім “блізкія, родныя вобразы”. Вядома, што Колас і сам пісаў вершы на роднай мове Пушкіна, праўда, большасць такіх твораў была напісана беларускім класікам у пачатковы перыяд яго літаратурнай дзейнасці, пераважна да 1906 г.

Найбольшы ўплыў на станаўленне светапогляду і “творчага почырку” Коласа зрабіла грамадзянская лірыка Пушкіна, у якой беларускага класіка прываблівала “пушкінскае імкненне да свабоды”, “пушкінская нянавісць да рабства і ланцугоў”. Беларускага народнага песняра Пушкін заўсёды захапляў найперш як “паэт-пратэстант”, “паэт-мяцежнік”, “палымяны змагар за свабоду”. Коласу быў дарагі Пушкін як абаронца нацыянальнай і чалавечай годнасці, як прыхільнік свабоды і справядлівасці. Аднак паколькі Колас з’яўляўся беларускім пісьменнікам, то ён звычайна імкнуўся не механічна засвойваць, успрымаць, а, наадварот, па магчымасці творча “перапрацоўваць” пушкінскія ўплывы, “карэкціраваць” іх у залежнасці ад асаблівасцей уласна беларускіх рэалій жыцця. Таму калі спачатку Пушкін для Коласа быў у пэўным сэнсе настаўнікам, то ў сталыя гады беларускі класік звяртаўся да рускага генія як да свайго суразмоўніка і блізкадумца. На думку аўтара, у аснове ўсёй коласаўскай творчасці ляжыць менавіта пушкінскі прынцып “гарманічнай арганізацыі мастацкага свету”.

Ва ўсе часы Коласа “прыцягвала” універсальнасць таленту Пушкіна, усеабдымнасць яго самабытнай творчасці. Менавіта гэта адзначаў у сваім артыкуле “Сонца нашай паэзіі” беларускі пясняр: “Я проста люблю яго, люблю кожны радок: ад знішчальнай эпіграмы “Воспитанный под барабаном, наш царь лихим был капитаном” да танчэйшага лірычнага васьміградкоўя “Я вас любил”. Я люблю Пушкіна — тварца непараўнальных паэм, Пушкіна — празаіка, гісторыка, стваральніка новай рускай мовы, Пушкіна — рэдактара “Современника”. Як многа сумясціў ён у сабе, гэты ўсеабдымны геній, чыё дыханне мы адчуваем кожную хвіліну поруч з сабой”.

У заключным раздзеле “Беларуская Пушкініяна” аўтар сцвярджае, што творчасць Пушкіна “паскорыла выспяванне нацыянальнага эпасу беларусаў”, прычым найбольш відавочным вынікам своеасаблівага працэсу эпізацыі беларускай

літаратуры сталі не толькі такія творы Коласа, як паэма "Новая зямля" і раман-трылогія "На ростанях", але і цыклы раманаў К. Чорнага, І. Мележа, В. Адамчыка і І. Чыгрынава. І далей М. Тычына робіць выснову аб тым, што многія беларусы (найперш пісьменнікі) вучыліся ў Пушкіна "свабодзе самавыяўлення, адданасці патрыятычнай ідэі служэння свайму народу, разуменню творчасці як вышэйшай праяве самаахвярнасці, смеласці, адданасці паэтычнай музе, розуму, здароваму сэнсу".

Як вядома, Аляксандр Пушкін быў не толькі любімым паэтам Якуба Коласа, але і яшчэ аднаго беларускага класіка — Янкі Купалы. У сваім артыкуле з красамоўнай назвай "Любімы паэт" Купала выказваў захапленне "прыгожым, чароўным вершам" вялікага рускага паэта і падкрэсліваў, што любіць Пушкіна за яго гордасць, "свядомасць чалавечай дастойнасці" і вальнадумства ў складаных умовах тагачаснага гістарычнага перыяду.

У цэлым рэцэнзуемая кніга даволі грунтоўна і рознабакова раскрывае асаблівасці творчых уплываў рускага генія на беларускага класіка. Гэтае навуковае выданне можна па праву лічыць заўважным укладам як у "беларускую Пушкініяну", так і ў "рускае коласазнаўства". Хаця кніга разлічана найперш на навукоўцаў, але з яе зместу вынікае, што яна можа быць цікавая і для шырокіх чытацкіх колаў.

***Эдуард Дубянецкі**, кандыдат гістарычных навук*

## ЛЯВОН ЮРЭВІЧ. КАМЭНТАРЫ: ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧЫЯ АРТЫКУЛЫ. Мн., 1999. 302 с.

У Беларусі ўсім, хто цікавіцца літаратурай беларускага замежжа, добра вядомы працы Лявона Юрэвіча — аднаго з таленавітых даследчыкаў і збіральнікаў спадчыны пісьменнікаў-эмігрантаў. Пасля заканчэння аспірантуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ён пераехаў у Нью-Йорк і актыўна ўключыўся ў дзейнасць Беларускага інстытута навукі і мастацтва. На сённяшні дзень Л. Юрэвіч — аўтар грунтоўных літаратуразнаўчых артыкулаў, літаратурны аглядальнік газеты "Беларус", укладальнік Збораў твораў (падрыхтоўка тэкстаў, прадмова, каментарыі, бібліяграфія) У. Дудзіцкага ("Напярэймы жаданьням". 1994), М. Цэлеша ("Хмары над Бацькаўшчынай". 1995), Ю. Віцьбіча ("Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі". 1996), Л. Крывічаніна ("Беларусізацыя пад №…". 1998), "Архіўнай кнігі" (1997), куды ўключаны знойдзеныя ім матэрыялы аб творчасці У. Дудзіцкага, Х. Ільяшэвіча, У. Клішэвіча, У. Глыбіннага, Ю. Віцьбіча, М. Вярбы. Усе гэтыя кнігі друкаваліся ў Нью-Йорку М. Прускім, афармленне ж вокладак з густам зроблена мастачкай Ірэнай Рагалевіч-Дудко.

У новай кнізе Л. Юрэвіча "Камэнтары" з пасляслоўем У. Конана прадстаўлены не толькі літаратуразнаўчыя артыкулы. З яе чатырох раздзелаў чытач можа даведацца пра шляхі станаўлення гісторыка-міфалагічнай прозы

ў беларускай літаратуры, пра беларускі тэатр і драматургію, захаванне беларускай мовы ў эміграцыі, беларускае рэлігійнае адраджэнне.

Уласна літаратуразнаўчыя артыкулы змешчаны ў першым раздзеле кнігі пад назвай “Да гісторыі станаўленьня жанру гісторыка-міталягічнае прозы” — “Лябірынты” Вацлава Ластоўскага: спроба разгорнутага камэнтара выбраных месцаў”, “На шляху з варагаў у грэкі”, “Праблемы гісторыі — праблемы сучаснасьці”, “Русальчына бальляда”: міталёгія й дэманалёгія ў паданьнях Сьвятаслава Каўша”.

Прасочваючы стан вывучэння і распрацаванасці жанру гісторыка-міфалагічнай прозы ў айчыннай літаратуры, даследчык згадвае плённыя традыцыі беларускіх пісьменнікаў Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага, якія выкарыстоўвалі фальклорныя матывы ў цеснай спалучанасці з гістарычнымі падзеямі. Як вядома, працэс стварэння гісторыка-міфалагічнай прозы і поспехі гістарычнай навукі былі перадумовай з’яўлення беларускага гістарычнага рамана. І распрацоўваць гістарычную і гісторыка-міфалагічную тэматыку ў беларускай прозе, як падкрэслівае аўтар, пачалі пісьменнікі, выключаныя з афіцыйнай савецкай літаратуры, бо ў час сталіншыны яны сталі “ворагамі народа”, “нацдэмамі”, а пазней некаторыя і вымушанымі эмігрантамі. У іх ліку — Я. Дыла, Б. Мікуліч, В. Ластоўскі, Ю. Віцьбіч, У. Случанскі, У. Сядура, С. Хмара, С. Коўш. Раскрываючы праблематыку гістрычных сказаў У. Случанскага, Л. Юрэвіч у шырокім кантэксце сусветнай філасофскай думкі і міфатворчасці разглядае “Лабірынты” В. Ластоўскага. Сцвярджаючы значнасць і непаўторнасць гэтага твора для беларускай літаратуры, які стаў падмуркам адраджэнцкай літаратуры і філасофіі, даследчык робіць слушную выснову, што “Ластоўскі сынкрэтызмам сваёй дзейнасьці нагадвае постаці Рэнесансу”. Гісторык і філолаг, публіцыст і пісьменнік, бібліёграф і краязнаўца, грамадскі і палітычны дзеяч, ён выдатна разумеў важнасць вяртання да культурных вытокаў — каранёў нацыянальнай свядомасці.

Дзеля ўмацавання нацыянальнай свядомасці суайчыннікаў працаваў і Язэп Дыла, якога ў 30-я гг. выслалі з Беларусі (спадчына яго ўпершыню была сабрана і выдадзена А. Мальдзісам у 1981 г.). Л. Юрэвіч, аналізуючы раман Я. Дылы “На шляху з варагаў у грэкі”, адзначае, што галоўным для аўтара было імкненне сцвердзіць важнасць для беларусаў маральных і нацыянальных каштоўнасцей, іх яднання на гэтай аснове, што, дарэчы, вельмі актуальна і сёння.

Акрэсліваючы асноўныя накірункі ў беларускай гісторыка-міфалагічнай прозе ад старажытных пластоў да сучаснасці, Л. Юрэвіч абгрунтавана вылучае два аспекты: фальклорна-міфалагічны, набліжаны да народнага светаўспрымання, прадстаўлены ў прозе, паэзіі Я. Баршчэўскага, М. Багдановіча, і кніжны, “элінскі”, увасоблены ў творах В. Ластоўскага, хаця існуе і сінтэз гэтых напрамкаў у кнігах С. Хмары (“Аб багох крывіцкіх сказы”. Таронта, 1986) і С. Каўша, які пісаў свае паданні ў духу беларускай міфалагічнай прозы (“Русальчына бальляда”, “Бірута”, “Усяслаў Чарадзей”). Артыкулы

Л. Юрэвіча пра гістарычныя творы У. Случанскага, В. Ластоўскага, Я. Дылы, С. Каўша напісаны ў кантэксце не толькі беларускай прозы, але і сусветнай літаратуры, у суаднесенасці з мінулым і сучаснасцю, што сведчыць пра шырокія далягляды і эрудыцыю аўтара, арыгінальны неабыякавы погляд на дасягненні айчыннага і замежнага прыгожага пісьменства.

Другі раздзел кнігі сапраўды ўяўляе сабой “камэнтары” — своеасаблівыя штрыхі да творчых партрэтаў Я. Юхнаўца (“Чорт, Янка Юхнавец ды беларуская літаратура”, “Паэзія й праўда жыцьця: Янка Юхнавец”), Р. Крушыны (“Апостал каханьня: Рыгор Крушына”), А. Салаўя (“Пакараны вершам: Алесь Салавей”). Гэтыя артыкулы ўспрымаюцца як асобныя фрагменты будучай гісторыі літаратуры беларускага замежжа, якую напэўна ж напіша той жа Л. Юрэвіч. Ён абраў правільны накірунак: спачатку сабраць і выдаць творы пісьменнікаў-эмігрантаў, акрэсліць на падставе багатага ліставання, асабістых архіваў, успамінаў, публікацый у газетах, часопісах найбольш значныя вехі іх жыцця і творчасці, каб мець поўную і дакладную карціну літаратуры, створанай у “далёкім замежжы”. Праўда, не ўсё з таго, што знаходзіць Л. Юрэвіч як першаадкрывальнік, заслугоўвае публікацыі. Можа, толькі вузкаму колу блізкіх людзей і даследчыкаў, што займаюцца творчасцю пісьменнікаў-эмігрантаў, будуць зразумелыя некаторыя моманты з ліставання А. Салаўя і яго вершаў, дзе ён ужывае нецэнзурную лексіку. Усё гэта пісалася ў роспачныя, цяжкія хвіліны на пачатку выгнання, калі маладому паэту здавалася, што надыходзіць канец жыццю, і ён, звяртаючыся да землякоў за дапамогай, духоўнай падтрымкай, часта не знаходзіў адпаведнага водгуку. Дык ці варта публікаваць вершы, накшталт таго, што змешчаны на с. 139 “Камэнтароў”? Думаецца, з цягам часу Л. Юрэвіч перагледзіць і сваю пазіцыю наконт залішне катэгарычных меркаванняў пра “бясполую” айчынную паэзію і Р. Крушына не будзе ў беларускай літаратуры адзіным аўтарам эратычных вершаў (яны каментуюцца ў артыкуле “Апостал каханьня”).




Разглядае аўтар не толькі творчасць асобных паэтаў, але і станаўленне літаратурных арганізацый за мяжой. У артыкуле “Змагары з “Баявой Ускалосі” Л. Юрэвіч, даючы звесткі пра заснаванне ў 1949 г. гэтай літаратурнай арганізацыі, прыводзіць малавядомыя факты з жыцця і творчасці заснавальніка часопіса Сяргея Хмары, а таксама яго сяброў — М. Панькова (М. Вольнага), Ніны Змагаркі, А. Кавалеўскага, А. Змагара, цытуе ўрыўкі з ліставання С. Хмары і Л. Геніюш. Як вядома, Ларыса Геніюш перапісвалася з многімі суайчыннікамі на чужыне, у тым

ліку і з А. Салаўём, пасылала яму кнігі беларускіх пісьменнікаў. Таму асобны раздзел у кнізе Л. Юрэвіча прысвечаны Л. Геніюш, дзе цытуюцца ўрыўкі з многіх яе лістоў, з якіх мы ўпершыню даведваемся пра побыт сям'і Геніюшаў у Зэльве пасля вызвалення з ГУЛАГа, адчуванні паэтэсы-пакутніцы, яе разуменне і ўспрыняцце падзей літаратурнага і культурнага жыцця Беларусі 70–80-х гг. З артыкула Л. Юрэвіча "Беларускі тэатр і драматургія на эміграцыі" мы атрымліваем шмат інфармацыі, як кажуць, "з першых рук" пра жыццё і творчасць драматурга Аўгена Кавалеўскага, такіх музычных і тэатральных дзеячаў, як М. Куліковіч-Шчаглоў, В. Селех-Качанскі, М. Равенскі, пісьменнікаў, якія найбольш пісалі для тэатра, — Н. Арсенневу, Я. Золака, А. Змагара, М. Цэлеша, пастаноўку п'есы Т. Лебяды "Загубленае жыццё". Усё гэта дало магчымасць беларускаму крытыку У. Глыбіннаму ў свой час напісаць грунтоўнае даследаванне на англійскай мове "Беларускі тэатр і драма". Л. Юрэвіч адзначае таксама вялікую заслугу ў развіцці беларускай культуры Я. Юхнаўца, п'есы якога вяртаюць беларускую драму ў рэчышча еўрапейскага тэатра.

На аснове багатай і змястоўнай перапіскі Ю. Віцьбіча Л. Юрэвіч напісаў артыкул "Тавізаўцы". Ю. Віцьбіч — равеснік многіх рэпрэсіраваных беларускіх пісьменнікаў — лічыў ТАВІЗ спробай аб'яднаць у 30-я гг. беларускую "багему", стварыць пэўную апазіцыю "пісьменніцкаму калгасу". Згадаўшы Т. Кляшторнага, У. Хадыку, В. Каваля, А. Дудара, М. Багуна, С. Дарожнага, аўтар больш падрабязна спыняецца на лёсе В. Маракова, З. Астапенкі, Ю. Таўбіна, загубленых у самым росквіце творчых і жыццёвых сіл. Праўда, ёсць некаторыя недакладнасці. Вядома, што В. Маракоў і Ю. Таўбін былі расстраляны ў 1937 г. (хутчэй за ўсё ў Курапатах), а не высланы у ГУЛАГ, дзе, як сцвярджаецца ў артыкуле, і памерлі.

Беларускаму слову ў "Камэнтарах" прысвечаны вялікі артыкул "Беларуская лексікаграфія за мяжой". Ён вылучаецца востранадзённай пастаноўкай пытання пра збор і вывучэнне не толькі мастацкай літаратуры, але і ўсяго створанага беларусамі ў эміграцыі: філасофска-рэлігійных твораў, прац па гісторыі і культуры, навуковых доследаў ў галіне медыцыны, хіміі, астранаўтыкі. І галоўнае — асэнсаванне гісторыі і сучаснага стану беларускай мовы, яе першароднай чысціні, якую зберагалі беларусы-эмігранты.

"Камэнтары" Л. Юрэвіча захапляюць шырынёй навуковых зацікаўленняў аўтара, вялікім колам пастаўленых ім праблем, якія скіроўваюць даследчыкаў на іх далейшае вывучэнне, уражваюць інтэнсіўнасцю і выніковай пошукавасцю, уменнем аўтара з мноства разнастайных матэрыялаў выбраць самае патрэбнае і неабходнае, найбольш важнае і цікавае для даследчыкаў, глыбокім прачытаннем тых аўтараў, творы якіх ён збірае і ўводзіць у сучасны літаратурны працэс.

Завяршаючы свае "Камэнтары", Л. Юрэвіч выказвае надзею, а разам з ім і мы, усе тыя, хто займаецца, вывучае, даследуе ды і наогул цікавіцца літаратурай, што здабыткі духоўнага жыцця беларусаў замежжа стануць неад'емнай часткай адзінай беларускай навукі і культуры.

***Лідзія Савік**, кандыдат філалагічных навук*

## HENRYK CHAŁUPCZAK, TOMASZ BROWAREK. MNIEJSZOŚCI NARODOWE W POLSCE. 1918–1995. Lublin, 1998. 323 s.

У выдавецтве Люблінскага універсітэта імя М. Складоўскай-Кюры пабачыла свет кніга Генрыка Халупчака і Томаша Браварэка “Нацыянальныя меншасці ў Польшчы. 1918–1995 гг.”. На падставе шырокага кола крыніц аўтары даследуюць складанае пытанне, якое з’яўляецца цяпер вельмі актуальным не толькі для Польшчы, але і для многіх іншых краін свету, у тым ліку Беларусі. Асноўны матэрыял кнігі згрупаваны ў 11 раздзелаў. У канцы кожнага з іх робіцца падсумаванне, даецца бібліяграфія. Раздзелы прысвечаны такім праблемам, як колькасць і рассяленне нацыянальных меншасцей у межах Польшчы, іх прававы статус, палітыка польскіх дзяржаўных уладаў у адносінах да нацыянальных меншасцей, удзел нацыянальных меншасцей у выбарах і рабоце парламента. Асобныя раздзелы адлюстроўваюць становішча такіх нацыянальных меншасцей, як украінцы, беларусы, немцы, яўрэі, літоўцы і інш.




Ва ўступе аўтары падкрэсліваюць, што праблема існавання нацыянальных меншасцей з’яўляецца вельмі складанай, а ў многіх адносінах спрэчнай, дыскусійнай. Кожная нацыянальная група мае сваю гісторыю, асабістыя праблемы і погляды. Нацыянальныя меншасці фарміраваліся ў працэсе стварэння дзяржаў, тэрыторыі якіх не супадалі з этнічнымі межамі, часам іх з’яўленне было выклікана пашырэннем дзяржаўных межаў без удакладнення этнічнай прыналежнасці народаў, якія засялялі пэўныя тэрыторыі. Перад Першай сусветнай вайной у Еўропе жыло каля 85 млн. чалавек, якіх можна было аднесці да нацыянальных меншасцей. У міжваенны перыяд, калі адбыліся істотныя змены на палітычнай карце Еўропы, колькасць такіх асоб складала ўжо каля 30 млн. У Эстоніі, Латвіі, Літве, Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі, Румыніі, Югаславіі і Балгарыі меншасці налічвалі да адной пятай часткі жыхароў. У сучаснай жа Еўропе, па некаторых дадзеных, каля 270 этнічных груп.

У межах Польскай дзяржавы пражываюць прадстаўнікі 14 нацыянальных і этнічных меншасцей. У іх розная дэмаграфічная, этнаграфічная і палітычная арганізаванасць. Адны з іх ствараюць невялікія лакальныя супольнасці, іншыя адыгрываюць істотную ролю ў грамадскім жыцці краіны.

У багатай літаратуры па пытаннях гісторыі нацыянальных працэсаў вельмі шмат тэм для дыскусій, таму аўтары працы адмовіліся ад паглыбленага аналізу

новых распрацовак па тэорыі нацый і нацыянальных працэсаў, а таксама спрэчак вакол самой дэфініцыі “нацыянальная меншасць”. Яны вырашылі найперш упарадкаваць усталяваныя погляды на сутнасць народастваральных працэсаў і на пытанні этнічна-нацыянальнага памежжа, прааналізаваўшы некаторыя тэорыі, якія існуюць па гэтых праблемах у польскай навуковай літаратуры, у прыватнасці, тэорыю, якая звязвае праблемы нацый з агульнай тэорыяй культуры, тэорыю, якая вызначае народ з пункту погляду нацыянальнай ідэалогіі і інш. Пры гэтым падкрэсліваецца, што ў розных даследчыкаў існуе таксама рознае разуменне нацыянальна-этнічнага памежжа. Аўтары робяць спробу даць сваё вызначэнне паняццю “нацыянальная меншасць”, паклаўшы ў яго аснову гістарычныя, прававыя і сацыяльныя суадносіны, абапіраючыся таксама на даследаванні ў гэтай галіне, праведзеныя пад эгідай ААН, на Турынскую дэкларацыю ад 19 лістапада 1994 г. “Інструмент Цэнтральнаеўрапейскай ініцыятывы па ахове правоў меншасці”, іншыя міжнародна-прававыя аспекты. Дэфініцыя “нацыянальная меншасць”, у разуменні аўтараў даследавання, можа гучаць наступным чынам: “Нацыянальная меншасць — гэта група грамадзян дадзенай дзяржавы, якая знаходзіцца ў меншасці ў адносінах да астатняй часткі яе насельніцтва і не займае ў ёй дамінуючай пазіцыі, якая выдзяляецца этнічнымі, моўнымі ці рэлігійнымі прыкметамі, якая імкнецца да захавання сваёй культурнай тоеснасці і валодае імкненнямі, вызначанымі ў катэгорыях дзяржавы”. Пры гэтым аўтары падкрэсліваюць, што такая спроба вызначэння гэтай катэгорыі, як і астатнія, у пэўным сэнсе ўмоўная і мае характар мадэлі.

У сучаснай заходнееўрапейскай літаратуры паняцце “нацыянальная меншасць” часта замяняецца тэрмінам “недамінуючая этнічная група”. Акрамя таго, паняцці “нацыянальная меншасць” і “этнічная меншасць” ужываюцца як сінонімы. Згодна з польскай канстытуцыяй, з законам “Аб правах асоб, якія належаць да нацыянальных і этнічных меншасцей”, паняцце “нацыянальная меншасць” аднесена да груп, што атаясамліваюць сябе з народамі, якія арганізаваны ва ўласныя дзяржавы (беларусы, чэхі, грэкі, літоўцы, немцы, армяне, рускія, славакі, украінцы і інш.). Да этнічных меншасцей залічаны так званыя бездзяржаўныя народы (караімы, цыганы, татары і інш.).

Даследчыкі, якія вывучаюць нацыянальнае пытанне, у тым ліку і пытанне аб нацыянальных меншасцях, сустракаюцца са шматлікімі складанасцямі, якія звязаны з недахопам дакладных дадзеных, заніжэннем ці завышэннем фактычнай колькасці асоб, што належаць да нацыянальнай меншасці, маніпуляваннем крытэрыямі нацыянальнай прыналежнасці, нядобрасумленнымі метадамі складання спісаў і збірання інфармацыі. Увогуле, не існуе аб’ектыўных крытэрыяў дакладнасці дэкларацый аб нацыянальнай прыналежнасці. Часта тая ж самая асоба, але пры іншых абставінах, можа залічыць сябе да іншай нацыянальнасці. Стан нацыянальнай свядомасці асобы вынікае не толькі з паходжання і выхавання ў рэчышчы пэўнай культуры, але і з палітычных, эканамічных абставін.

Аўтары падкрэсліваюць, што статыстыка, якая датычыць колькасці нацыянальных меншасцей у Польшчы, у тым ліку і апрацаваная на падставе вынікаў перапісаў насельніцтва, з'яўляецца вельмі прыблізнай. У міжваенныя гады ў Польшчы праводзіліся два перапісы насельніцтва. Першы (30 верасня 1921 г.) не ўключаў усю тэрыторыю дзяржавы. Па фінансавых прычынах яго вынікі засталіся неапрацаванымі. Другі перапіс (9 снежня 1931 г.) ахапіў усю тэрыторыю Польшчы і ўключаў пытанне пра родную мову. У перапісным лісце пералічваліся мовы "польская, украінская, руская, яўрэйская, беларуская, нямецкая, літоўская, чэшская ці іншая". Перапіс 1931 г. быў у значнай ступені запалітызаваны, здараліся выпадкі ўпісвання польскай мовы замест украінскай ці беларускай. Па некаторых гмінах статыстычныя звесткі ўвогуле не былі апублікаваны. Па выніках гэтага перапісу толькі ў Палескім ваяводстве знайшлося 700 тыс. асоб, мова якіх была вызначана як "тутэйшая". Сярод іх апынуліся тыя, хто не здолеў вызначыць сваю мову сярод польскай, беларускай, украінскай і інш. Пасля Другой сусветнай вайны толькі першы ўсеагульны перапіс ад 14 лютага 1946 г. уключаў пытанне аб нацыянальнасці. Яго дадзеныя, на думку аўтараў, былі таксама далёкія ад рэчаіснасці. Ён адбываўся ва ўмовах інтэнсіўных міграцыйных рухаў, калі шмат людзей не выяўляла сваёй сапраўднай нацыянальнасці і выдавала сябе за палякаў.

На падставе аналізу розных крыніц аўтары даследавання лічаць, што ў сярэдзіне 1990-х гг. у Польшчы з 38,6 млн. чалавек насельніцтва нацыянальныя меншасці складалі каля 1 млн. чалавек (2,6%). З іх немцаў — каля 360 тыс., украінцаў — 300 тыс., беларусаў — 240 тыс.

Пасля Другой сусветнай вайны колькасць беларусаў у Польшчы, як і ўкраінцаў, значна зменшылася і складала ў канцы 1940-х гг. ад 120 да 170 тыс. чалавек. У сярэдзіне 1990-х гг., паводле афіцыйных звестак, у Польшчы жыло ўжо ад 180 да 270 тыс. беларусаў. У той жа час арганізацыі гэтай меншасці даюць лічбы ад 250 да 400 тыс. чалавек. Аўтары даследавання лічаць, што цяпер у Польшчы (пераважна на Беласточчыне) пражывае каля 240 тыс. беларусаў.

Асобны раздзел даследавання прысвечаны пытанням прававога статуса нацыянальных меншасцей у Польскай дзяржаве, які вынікае як з актаў міжнароднага, так і ўнутрыдзяржаўнага права. Да ўнутрыдзяржаўных актаў, якія вызначалі ўмовы пражывання нацыянальных меншасцей у краіне, належаць Рыжскі мірны дагавор 1921 г., польска-чэхаславацкі дагавор 1925 г., пагадненне аб абмене насельніцтвам з УССР і БССР ад 9 верасня 1944 г. і з Літоўскай ССР ад 22 верасня 1944 г., польска-чэхаславацкі дагавор ад 10 сакавіка 1947 г., пагадненне паміж Польшчай, ГДР і ФРГ. Да 1989 г. Польшча падпісала 13 двухбаковых дагавароў, якія мелі дачыненне да спраў нацыянальнасцей, у тым ліку з усімі суседнімі дзяржавамі.

Раздзелы 3–8 кнігі прысвечаны нацыянальным меншасцям, якія складаюць найбольш значныя асяродкі ў сучаснай Польшчы, — украінцам, беларусам, немцам, яўрэям, літоўцам і інш. Пры гэтым увага аўтараў засяроджваецца на такіх пытаннях, як колькасць, рассяленне ў міжваенны перыяд і пасля Другой

сусветнай вайны, грамадскія структуры, палітычнае жыццё, асвета, гаспадарчае жыццё, перыядычны друк і выдавецкая дзейнасць меншасці.

Увогуле ж даследаванне Г. Халупчака і Т. Браварэка вызначана вельмі шырокім дыяпазонам пытанняў — гістарычных, статыстычных, сацыялагічных, гаспадарчых і палітычных. Аўтары, маючы на ўвазе складанасць і спрэчнасць некаторых узнятых пытанняў, імкнуліся захаваць асцярожнасць пры фармуляванні вывадаў. Тым больш што толькі частка прадстаўленых у кнізе праблем абапіраецца на іх асабістыя даследаванні, пераважна ж яны грунтуюцца на друкаваных матэрыялах, большасць з якіх мае публіцыстычны характар. Пры вырашэнні найбольш складаных пытанняў аўтары імкнуліся прадставіць іншыя пункты погляду ці падкрэсліць адрозненні ў існуючых поглядах. Даследчыкі падкрэсліваюць, што іх кніга адрасавана тым, хто мае пэўныя веды па нацыянальнай праблематыцы. Яны намерваюцца дапоўніць працу асобнай бібліяграфіяй друкаваных крыніц (яна ўказана ў бібліяграфічным раздзеле гэтага нумара), якія тычацца праблематыкі нацыянальных меншасцей у Польшчы за 1990–1996 гг., а таксама выданнем важнейшых адпаведных дакументаў з гэтай вобласці.

Асабістую падзяку за дапамогу ў працы над выданнем аўтары выказваюць беларусісту прафесару Ежаму Тамашэўскаму.

***Ларыса Языковіч****, кандыдат гістарычных навук*

## НАДРУКАВАНА ПРА КАНТАКТЫ Ў БЕЛАРУСІ І Ў СВЕЦЕ

У падрыхтоўцы бібліяграфіі ўдзельнічалі:

***Моніка Банькоўскі-Цюліг*** *(Швейцарыя),* ***Юрась Вашкевіч*** *(Польшча),* ***Раіса Жук-Грышкевіч*** *(Канада),* ***Мікалай Ількевіч*** *(Расія),* ***Адам Мальдзіс, Таццяна Махнач, Таццяна Пятровіч, Міхал Швэдзюк*** *(Вялікабрытанія).*

Перавага пры складанні бібліяграфіі аддаецца кніжным і часопісным публікацыям. З публікацыямі пра ўзаемасувязі, змешчанымі ў газетах, можна пазнаёміцца ў Банку інфармацыі Цэнтра імя Ф. Скарыны.

### БАЛГАРЫЯ

**Алексиевич С.** Детският хор: Откъс от документалната книга на Светлана Алексиевич “Чернобилска молитва” / Прев. от рус. В. Георгиева // Габрово днес. 1999. 26 апр.

**Алексиевич С.** Монолог за това, че страшното в живота става тихо и естествено: (Откъс от “Чернобилска молитва”) / Прев. от рус. В. Георгиева // Зорница. 1999. Кн. 37. С. 158–160.

**Арлов Уладзимир.** Бабина заръка; Кръстопът: (Стихове в проза) / Прев. от бел. В. Козарева // Зорница. 1999. Кн. 37. С. 103

**Шагал Марк.** Поэзия / Прев. Найден Вълчев. София, 1999.

### БЕЛАРУСЬ • Агульныя пытанні

**Автухович Татьяна.** Трансформация риторической парадигмы в сентименталистской прозе // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце. Мн., 1999. Ч. 2. С. 22–26.

**Агафонава Наталля.** Край бяздомных: [Пра Міжнародны кінафестываль “Лістапад”] // Мастацтва. 1999. № 4–5. С. 19–20.

**Андросік Яўген.** Прымірэнне ў Еўропе — місія цэркваў // Царква (Брэст). 1999. № 2. С. 2.

**Арлова Таццяна.** Споведзь уладара: [Пра III Міжнародны фестываль монаспектакляў] / Пер. з рус. // Мастацтва. 1999. № 4–5. С. 11–14.

**Арцішэўскі В.** Нацыяналізм — базавае вязьмо ідэалогіі сацыяльнай гармоніі, ідэалогіі чалавечай цывілізацыі XXI ст. // Беларуская нацыянальная ідэя: Праграма і тэзісы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Гродна, 1999. С. 10–11.

**Астапенко В. А.** Изменения концепции сотрудничества государств-членов ЕС в области правосудия и внутренних дел по Амстердамскому договору // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 3. 1999. № 1. С. 65–70.

**Астроўскі А.** Беларуская нацыянальная ідэя і будучыня людства // Беларуская нацыянальная ідэя. Гродна, 1999. С. 15–16.

**Баршчэўскі Лявон.** Еўрапейская літаратура Сярэднявечча: Літаратура ў гуманітарным ліцэі // Род. слова. 1999. № 4. С. 95–104.

**Бондарава Ефрасіння.** Фестываль — не толькі свята: (Да пяцігоддзя “Лістапада” [Міжнароднага кінафестывалю] ў Мінску) // Мастацтва. 1999. № 4–5. С. 15–18.

**Варлыга Адам.** Прыказкі й асаблівыя выказы з Лагойшчыны ў Меншчыне: Уводнае слова: [Праца беларускага вучонага, напісаная ў Германіі і ЗША] // Крыніца. 1998. № 1. С. 162–172.

**Гісторыя** Лацінскай Амерыкі (другая палова XVII–XX стагоддзяў): Вучэб.-метад. дапам. для студэнтаў фак. гісторыі і культуры / Склад. П. Ц. Рыбакоў. Гродна, 1998.

**Гужвій Андрэй.** У краіне глухіх: [Пра Міжнародны кінафестываль “Лістапад”] // Мастацтва. 1999. № 4–5. С. 21–22.

**Гулюк А. Ф.** Праблема балканскіх перасяленцаў у аўстра-расійскіх адносінах у сярэдзіне XVIII ст. // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 3. 1999. № 1. С. 30–33.

**История** государства и права славянских народов / Сост. Е. И. Новик. Гродно, 1997. Ч. 1.

**Качановский В. В.** История культуры Западной Европы: Учеб. пособие. Минск, 1998.

**Конон Владимир.** Бытие и слово: Библейские мотивы в белорусской литературе // Нёман. 1999. № 4. С. 228–246.

**Краўцэвіч А. К.** Вялікае Княства Літоўскае ў другой палове XIII – пачатку XIV ст: Генезіс дзяржавы па пісьмовых і археалагічных крыніцах: Аўтарэф. дыс. … докт. гіст. навук. Мн., 1998.

**Крывашэй Д.** Беларуская культура ў краінах Цэнтральнай і Заходняй Еўропы ў 1991–1996 гадах // Беларуская нацыянальная ідэя. Гродна, 1999. С. 33–34.

**Латыпов Урал.** “Мыслить и действовать в измерении завтрашнего дня”: С министром иностранных дел — заместителем премьер-министра Республики Беларусь беседует главный редактор журнала “Беларуская думка” Владимир Величко // Бел. думка. 1999. № 5. С. 3–9.

**Лявонава Е. А.** Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX – XX стагоддзяў: Дапаможнік для настаўнікаў. Мн., 1998.

**Ляская Уладзя.** Выдавецкі праект “Газета “Белавежская пушча” стаў лаўрэатам конкурсу Еўрапейскай прэміі Генры Форда // Белавежская пушча. 1999. № 3. С. 3.

**Монзер Аль-Атум.** Роля асобы выкладчыка выяўленчага мастацтва: Некаторыя аспекты прафесіянальнай падрыхтоўкі мастака-педагога: [Пра еўрапейскі вопыт] // Нар. асвета. 1999. № 4–5. С. 136–142.

**Фролова Ю. Г.** Личность и болезнь (обзор современных зарубежных исследований) // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 3. 1999. № 1. С. 26–29.

**Ярмоленка Валерый.** Забытыя імёны: Ад Беларусі да вярхоўяў Ніла: [Пра падарожніка Станіслава Рылу родам з Ваўкавыскага пав.] // Род. прырода. 1999. № 3. С. 30.

**Kolomenskaya Irina.** Dance duet of West and East // Belarus’ Today. 1999. Apr. 6–12.

## • Беларусь – Аргенціна

**Коршун Антон.** У Аргенціну па шчасце: З дзённіка Антона Коршуна: [Успаміны] / Пер. з пол., іспан. Міхася Турыянскага // Голас Радзімы. 1999. 29 крас. – 6 мая.

**Марыно Сусанна** [Аргенціна]. [Ліст у рэдакцыю “Толасу Радзімы”] // Голас Радзімы. 1999. 29 крас. – 6 мая.

**Папоўская Таццяна.** Прадмова да дзённіка Антона Коршуна: [Пра Аргенціну] // Голас Радзімы. 1999. 1–8 крас.

**У Аргенціну** па шчасце: У суботу 26 верасня 1964 года на аргенцінскім параходзе “Сальта” вяртаўся на Радзіму грамадзянін Савецкага Саюза Антон Коршун // Голас Радзімы. 1999. 1–8 крас.

## • Беларусь – Бельгія

**Симановский А. И.** О первых публикациях переводов стихов Э. Верхарна в Белорусии: К 80-летию со дня смерти Эмиля Верхарна [бельгійскага паэта] // Здабыткі: Дакументальныя помнікі на Беларусі. Мн., 1997. Вып. 2. С. 111–113.

**Хорсун Святлана.** Багіня Месяца прызямлілася… на хімфаку: [Пра Міжнародны кангрэс па сістэмах запісу фатаграфічнай інфармацыі ў Бельгіі] // Бярозка. 1999. № 4. С. 18–19.

## • Беларусь – Ватыкан

**Бенек Аркадий кс.** Бенедикт XV — понтификат времен войны и перемен в Европе // Дыялог (Баранавічы). 1999. № 6. С. 10–11.

**Бенек Арек кс.** Наместник Петра в XX веке — св. Пий X // Дыялог (Баранавічы). 1999. № 5. С. 10–11.

## • Беларусь – Венгрыя

**Берасце** — Будапешт: [Пра навуковыя кантакты] // Літ. і мастацтва. 1999. 9 крас.

## • Беларусь – Вялікабрытанія

**Бабінская П. К.** Англійская мова. IV клас: Метадычныя рэкамендацыі // Нар. асвета. 1999. № 4–5. С. 82–87.

**Будкевіч Сыльвестар** [Ковентры]. Адваротная сувязь: [Свята, прысвечанае 81 угодкам абвяшчэння незалежнасці Беларусі] // Голас Радзімы. 1999. 15–22 крас.

**Депортер Б., Хенаки М.** Квантовое обучение: Разбудите спящего в вас гения! / Пер. с англ. С. И. Ананич. Мн., 1998.

**Залуский Анджей.** Время и музыка Михаила Клеофаса Огинского / Пер. с англ. В. Плютова, вступ. ст. В. Счастного, А. Мальдиса. Минск, 1999.

**Иоффе Эммануил.** На берегах туманного Альбиона: [Пра ўраджэнцаў Беларусі] // Мишпоха. 1999. № 5. С. 130–132.

**Надсан Аляксандр а.** Хрыстос уваскрос: [Артыкул, прысланы з Лондана] // Наша ніва. 1999. 12 крас.

**Петрова М. Н.** Устная тема "Здравоохранение в Великобритании". Минск, I998.

**Платонава І. Б., Разумава А. П.** Чытанне — асалода: На англ. мове: У 2 ч. Мн., 1998.

**Погоцкий В. К.** Реальный зубритель английского. Мн., 1998.

**Пособие** для учителей по обучению английскому языку учащихся 7-х классов (учебник авторов Н. Н. Пановой, А. А. Вейзе) / Авт.-сост. А. В. Потехина. Брест, 1998.

**Практика** устной и письменной речи: Пособие для студентов ст. курсов. Минск, 1998.

**Синица Л. В., Баданина Л. Н.** Пособие по устной практике английского языка: Тема — География: страны, города, люди. Минск, 1998.

**Тексты** по лексической семантике: Хрестоматия по лексикологии англ. яз. / Сост. С. А. Игнатова и др. Минск, 1998.

**Уилкерсон Д.** И снова крест побеждает нож / Пер. с англ., предисл. П. Бун. Минск, 1998.

**Учебно-методическое** пособие "Обучение деловой переписке" (на английском языке) / Сост. Л. Н. Гущина, Г. Я. Синкевич. Гродно, 1997.

**Христорождественская Л. П.** Английский язык. Практический курс = English Intermediate Course: Для сред. этапа обучення: В 2 ч. Минск, 1998.

## • Беларусь – габрэі

**Ан-ский С.** "Заговоры от дурного глаза, болезней и несчастных случаев среди евреев Северо-Западного края": (Печатается с сокращениями) // Мишпоха. 1999. № 5. С. 44–45.

**Басин Яков.** Смерть короля Лира: [Пра С. Міхоэлса] // Мишпоха. 1999. № 5. С. 90–97.

**Ванукевич Анатолий.** Я чудом остался жить: Воспоминания бывшего малолетнего узника фашистского лагеря смерти Освенцим (Аушвиц), Проссрозен и Нордхаузен // Мишпоха. 1999. № 5. С. 98–100.

**Двилянский Михаил.** Шолом, хавейрим!: [Пра ансамбль яўрэйскай музыкі "Шалом"] // Мишпоха. 1999. № 5. С. 137.

**Левин Леонид.** Сколько стоят 800 тысяч убитых евреев Беларуси?: Текст-сообщение Президента объединения еврейских организаций и общин Леонида Левина // Мишпоха. 1999. № 5. С. 102–103.

**Лейзеров Аркадий.** Неизученные страницы истории: Еврейские национальные Советы в Белоруссии (20–30-е гг.) // Мишпоха. 1999. № 5. С. 88–89.

**Лыч Леанід.** І непадуладныя асіміляцыі…: Беларусізацыя і яўрэі // Літ. і мастацтва. 1999. 16 крас.

**Минскому** объединению еврейской культуры имени Изи Харика 10 лет // Мишпоха. 1999. № 5. С. 141.

**Релес Гирш.** Мемуары старого писателя: [Успаміны] // Мишпоха. 1999. № 5. С. 25–26.

**Роланд Борис.** Моисей Букенгольц: (Письма на Родину) // Мишпоха. 1999. № 5. С. 73–77.

**Харик И. Д.** "Отсель кричу в грядущие года…": Стихи и поэмы / Пер. с евр. Д. Бродского, вступ. ст. В. Мехова. Минск, 1998.

## • Беларусь – Германія

**Бяласін Я.** Гістарычная тыпалогія беларускай і нямецкай імперскасці // Беларуская нацыянальная ідэя: Праграма і тэзісы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Гродна, 1999. С. 17.

**Европейская** клавирная музыка XVII–XVIII веков: Из архивного собрания Российской Национальной библиотеки / Исполн. ред. для аккорд. Г. Писняка. Могилев, 1997 . Вып. 2: (Композиторы Германии). 1998.

**Зуеў Уладзімір.** Свабода. Роўнасць. Братэрства: Сацыял-дэмакратычная партыя Германіі (працяг) // Альтанка: Гістарычны бюлетэнь (Баранавічы). 1999. № 2. Крас. С. 6–7.

**Карлюкевіч Алесь.** Беларуская сцежка ў космас: [Пра беларускага вучонага Барыса Кіта, які жыве ў Германіі] // Бел. думка. 1999. № 4. С. 131–133.

**Лазько И. Н.** Бытие и экзистенция человека сквозь призму игры в философии Ницше и Хайдеггера // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 3. 1999. № 1. С. 18–22.

**Ленц Зыгфрыд.** Прыхільнік ураду / Пер. з ням. мовы Алеся Пяткевіча // Наша ніва. 1999. 26 крас.

**Майсяёнак А.** Беларуская вышэйшая школа і навука ў палітыцы акупацыйных уладаў (1942–1944 гг.) // Беларуская нацыянальная ідэя: Праграма і тэзісы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Гродна, 1999. С. 37–39.

**Малы катэхізм** доктара Марціна Лютэра. [Перакладчык, дата і месца выдання не ўказаны].

**Немецкий** язык (поддерживающий курс): Программа дисциплины / Сост. Е. М. Кацаренко. Минск, 1998.

**Русакович А. В.** Развитие политического диалога между Беларусью и Германией (1991–1996) // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 3. 1999. № 1. С. 34–41.

**Сіневіч Алена.** Для немцаў Беларусь — Terra incognita ў Еўропе: [Пра кнігу доктара Генры Форстэра "Ад дыктатуры да дэмакратыі — ці назад"] // Пагоня (Гродна). 1999. 21 студз.

**Толстик Ирина.** Прессе суждено жить: [Пра друк Германіі] // Бел. думка. 1999. № 4. С. 134–139.

**Цыпіс Навум.** Экспанаты знявечанай свабоды: [Пра выстаўку рускага літаратурнага андэграунда ў Брэмене] // Літ. і мастацтва. 1999. 16 крас.

**Шелленберг В.** Мемуары / Пер. с нем. Минск, 1998.

**Шопенгауэр А.** Мир как воля и представление / Пер. с нем. Ю. И. Айхенвальда, вступ. И. Лапшина. Минск, 1998.

**Юнг К. Г.** Избранное / Пер. с нем. Е. Б. Глушак, предисл. Н. Ф. Каліна. Минск, 1998.

### • Беларусь – Грэцыя

**История** Древнего мира: Древняя Греция / А. Н. Бадак, И. Е. Войнич, Н. М. Волчек и др. Минск, 1998.

**Мифы** Древней Греции: Троянская война / Авт.-сост. Е. Гринчик. Минск, 1998.

**Шамякіна Таццяна.** Культура класічнай Грэцыі (працяг) // Род. слова. 1999. № 4. С. 153–161.

### • Беларусь – ЗША

**Арлоў Уладзімір.** Пра Адама Варлыгу [беларускага фалькларыста, які жыў і памёр у ЗША] // Крыніца. 1999. № 1. С. 161.

**Белохвостик Надежда.** Чарльз Бонтрагер: "Я хотел бы иметь белорусских музыкантов в своем оркестре": [Інт.] // Звязда. 1999. 14 апр.

**Васючэнка Пятро.** Спаведзь рабака: [Пра творчасць Генры Мілера] // Крыніца. 1999. № 1. С. 150–151.

**Данейко Елена.** Дирижер Бантагер [ЗША] любит слушать тишину // Бел. деловая газ. 1999. 7 апр.

**Двилянский Аркадий.** На родном языке: или Рецензия на наш журнал, опубликованная в американской газете "Новое русское слово" // Мишпоха. 1999. № 5. С. 2.

**Девятых Сергей** (дьякон). Бруклинский идол, или Кто такие свидетели Иеговы. Витебск, 1998.

**Кемеров Михаил.** Письма в Сан-Франциско: [Сямёну Лідэрману] // Мишпоха. 1999. № 5. С. 128–129.

**Кісліцына Ганна.** У поцемках, з ліхтаром: [Пра творчасць Генры Мілера] // Крыніца. 1999. № 1. С. 157–159.

**Ковалев Юрий.** Освоение и оценка реальностей: [Пра спадчыну амерыканскага пісьменніка Ірвінга] // Всемир. лит. 1999. № 5–6. С. 157–168.

**Лявонава Ева.** Чалавечае, надта чалавечае: (Эстэтычны абрыс Генры Мілера) // Крыніца. 1999. № 1. С. 135–146.

**Мілер Генры.** "Час забойцаў": Аналогіі, падабенствы, сувязі, водгукі / Пер. з англ. Дзмітрыя Серабракова // Крыніца. 1999. № 1. С. 93–132.

**Серабракоў Дзмітрый.** Ад перакладчыка [Генры Мілера] // Крыніца. 1999. № 1. С. 133–134.

**Сін Ілля.** Мужчыны павінны плакаць: [Пра творчасць Генры Мілера] // Крыніца. 1999. № 1. С. 157–158.

**[Сядура У.].** Ліст У. І. Сядуры да В. Н. Дышыневіч. Нью-Йорк, 1980 г. / Камент. В. Дышыневіч // Здабыткі: Дакументальныя помнікі на Беларусі. Мн., 1997. Вып. 2. С. 109–110.

**Тычына Міхась.** Хаос, эрас, логас, космас: [Пра творчасць Генры Мілера] // Крыніца. 1999. № 1. С. 147–150.

**Шаўлякова Ірына.** "Генры-Цзы" — чалавек-аркестр: [Пра творчасць Генры Мілера] // Крыніца. 1999. № 1. С. 152–155.

**Шишанов Валерий.** Завель Сорин: страницы биографии [габрэйскага мастака, ураджэнца Полацка, які памёр у ЗША] // Мишпоха. 1999. № 5. С. 52–53.

**Daneiko Elena.** American conductor's visit a success: [Пра выступленні ў Мінску дырыжора Шарля Бантагера] // Belarus' Today. 1999. Apr. 13–19.

## • Беларусь – Ізраіль

**Иоффе Эмануил.** Декларацию независимости Израиля подписывал уроженец Беларуси: [Пра ролю ўраджэнцаў Беларусі ў дзяржаўным жыцці Ізраіля] // Бел. деловая газ. 1999. 30 апр.

**Пайкин Ефим.** Брониград — столица оршанского землячества [у Ізраілі] // Мишпоха. 1999. № 5. С. 111.

**Mashchenko Svetlana.** Israeli Embassy honors heroic deeds // Belarus' Today. 1999. Apr. 6–12.

## • Беларусь – Ірландыя

**Дзень** Святога Патрыка прайшоў у Мінску / Падр. Марта Косціч // Голас Радзімы. 1999. 1–8 крас.

**Дранько-Майсюк Леанід.** Ірландыя: [Паэма] // Літ. і мастацтва. 1999. 9 крас.

## • Беларусь – Іспанія

**Гриневич Е. К.** Основы практики перевода: Учеб. пособие для студентов 1-го курса фак. исп. яз. Минск, 1998.

**Сіманоўская Святлана.** Эмігрант — слова неганаровае: [Ліст з Іспаніі] // Алеся. 1999. № 5. С. 15.

## • Беларусь – Італія

**Бонифаци Альберто.** "Поможем им жить": Так называется итальянский благотворительный фонд, который вот уже восемь лет помогает белорусским детям из загрязненных радиацией районов: [Інт.] / Зап. Оксана Данильчик // Беларусь. 1999. № 4. С. 11–13.

**Грышан Зміцер.** Быў чалавекам малітвы і пакуты: Беатыфікацыя айца Піо з П'етральчыны [у Італіі] // Царква (Брэст). 1999. № 2. С. 6–7.

## • Беларусь – Канада

**Кардонскі Раман.** Нашая Алачка: [Пра канадскую эмігрантку Алу Орса-Рамана] // Голас Радзімы. 1999. 29 крас. – 6 мая.

## • Беларусь – Кітай

**Лю Мин Ся.** Дети — опора в старости: О семье и пожилых людях в Китае // Бел. думка. 1999. № 5. С. 100–103.

## • Беларусь – курды

**Сьнітко Тацяна.** Курдыстан, падзелены на тры // Наша ніва. 1999. 26 крас.

## • Беларусь – Латвія

**Артмане Вия.** "Русские научили меня искренности…": [Інт.] / Зап. Надежда Репина // Метро. 1999. 29 апр.

**Валодзька С.** [Ліст у рэдакцыю "Голасу Радзімы"] // Голас Радзімы. 1999. 29 крас. – 6 мая.

## • Беларусь – Літва

**В. Б.** Беларусь і Літва — суседзі // Літ. і мастацтва. 1999. 9 крас.

**Мілаш Леакадзія.** Талент сяброўства [Янкі Жамойціна з Польшчы і Міколы Рулінскага з Літвы] // Голас Радзімы. 1999. 29 крас. – 6 мая.

**Сазановіч Ірына.** Ствараецца беларуска-літоўскі Фонд імя Скарыны // Нар. воля. 1999. 24 лют.

## • Беларусь – Польшча

**Агуновіч Эдуард.** Мастацка-вобразнае рашэнне экспазіцыі Беларускага музея ў Гайнаўцы (прапановы) // Бел. каляндар 1999. Мн., 1998. С. 99–103.

**Багдановіч Галіна.** Апошняя вясна мінулага стагоддзя: [Пра польскага і беларускага мастака Ф. Рушчыца] // Першацвет. 1999. № 4–5. С. 33–34.

**Барабаншчыкава Вольга.** Пракляты ўтульны серыял [па "Вернай рацэ" С. Жэромскага] // Літ. і мастацтва. 1999. 9 крас.

**Галубкова Надзея, Саглаева Ларыса.** Беларусы Беласточчыны (сацыялагічныя рысы партрэта) // Бел. каляндар 1999. Мн., 1999. С. 79–83.

**Жавускі Генрык.** Рэйтан / Пер. з пол. Алега Дышлевіча // Наша ніва. 1999. 26 крас.

**Зарэмба Людміла.** “Прыйшла ка мне… муза…”: Творчы партрэт Яна Чыквіна [бел. пісьменніка, які жыве на Беласточчыне] // Род. слова. 1999. № 4. С. 25–32.

**Зуеў Уладзімір.** Нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1794 года: Гістарычны каляндар // Альтанка: Гістарычны бюлетэнь (Баранавічы). 1999. № 2. Крас. С. 8–9.

**Кониский Георгий.** Речь королю Речи Посполитой Станиславу Августу Понятовскому в королевском замке в Варшаве 27 июля 1765 г. // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 3. 1999. № 1. С. 71–73.

**Краскоўскі Іпаліт.** У Белавежскай пушчы: [Апавяданне] / Пер. з рус. Міколы Гайдука // Бел. каляндар 1999. Мн., 1998. С. 174–185.

**Мароз Уладзімір.** Славутыя мясціны Беларусі: На мяжы старадаўняй Літвы: [Пра Косава і Т. Касцюшку] // Бярозка. 1999. № 5. С. 20–22.

**Масальскі Канстанцін.** Помнік праваслаўным жыхарам Беласточчыны // Бел. каляндар 1999. Мн., 1998. С. 89–91.

[**Пельгрымоўскі Гальяш**]. Пасольства Льва Сапегі ў годзе 1600 у Маскву, паводле дыярыуша Гальяша Пельгрымоўскага, сакратара пасольства, з рукапісу, выпадкова знойдзенага, Уладзіславам Трэмбіцкім апісанае: Гродна. Ва Урадавай друкарні. 1846 / Уст. слова, пер. і публ. У. Казберука // Полымя. 1999. № 4. С. 262–284.

**Платонов Ростислав.** В объятиях “начальника державы Польской”: [Пра Юзафа Пілсудскага] // Бел. думка. 1999. № 4. С. 97–102.

**Скорабагатаў Віктар.** Зорны тандэм віленскага кампазітара і італьянскага спевака [Д. Банольдзі]: 180 год з дня нараджэння Станіслава Манюшкі // Голас Радзімы. 1999. 29 крас. – 6 мая.

**Шакун Леў.** Беларуска-польскія моўныя кантакты ў XX стагоддзі // Род. слова. 1999. № 4. С. 62–67.

**Шамшурына Ніна.** Ян Булгак — фоталетапісец і рамантык першай паловы XX стагоддзя // Голас Радзімы. 1999. 15–22 крас.

**Юзвюк Уладзімір.** Старонка біяграфіі айца Я. Рэшаця; Успаміны хлапчука; “Лінія Керзана”; БГКТ у шасцідзесятыя гады (факты, успаміны). Адыход з працы // Бел. каляндар 1999. Мн., 1998. С. 110–129.

**Юзвюк Уладзімір.** Цэнтральныя ўлады БГКТ: (1956–1998) // Бел. каляндар 1999. Мн., 1998. С. 69–78.

**Я. С.** Гимн Новоградчине: [Рэц. на кн.: Мицкевич А. Пан Тадеуш. Минск, 1998] // Беларусь. 1999. № 4. С. 46.

**Ярошевич-Переславцев З.** [Ольштын]. Книжные собрания Радзивиллов: История исследований в Польше // Здабыткі: Дакументальныя помнікі на Беларусі. Мн., 1998. Вып. 3. С. 9–16.

**Яскевіч Алена.** Айцец Рыгор Сасна і рабалаўска-пружанская “Плачучая Божая Маці” // Голас Радзімы. 1999. 29 крас. – 6 мая.

**Człowiek** i świat: Ćweczenia dla uczniów kl. przygot. z jęz. pol. wykładowym szkół ogólnokształcących: W 3 cz: Cz. 1: Przyroda i człowiek / W. M. Udawiczenka / Пер. на пол. Г. С. Невядомскай, В. В. Мацюшэнкі. Mińsk, 1998.

**Dobrynin Michał.** Poglądy pedagogiczne Szymona Maricjusza (1516–1574) i Erazma Glicznera (1536–1603): Polska myśl pedagogiczna // Głos znad Niemna. 1999. 16 kwiet.

**Ejsmont Irena.** W Warszawie zakończyła się trwająca od lutego wystawa “Pamięć Grodna 1919–1939”: Weekend z Grodnem w Warszawie // Głos znad Niemna. 1999. 30 kwiet.

**J. N.** Jubileuszowe święto kultury polskiej w Lidzie: Pod hasłem “Polska” // Głos znad Niemna. 1999. 16 kwiet.

**Kusielczuk Andrzej.** W oczekiwaniu: Pierwsze w roku bieżącym posiedzenie Rady Koordynacyjnej mniejszości narodowych Białorusi przygotowało wytyczne, które mają być przedłożone Radzie Ministrów RB w celu rozwiązania skomplikowanej sytuacji zaistniałej w dziedzinie oświaty narodowościowej w naszej republice // Głos znad Niemna. 1999. 9 kwiet.

**Malewicz Tadeusz.** ZPB nadal zmuszony jest walczyć o prawa Polaków na Białorusi: Impas czy dialog?: [Інт.] / Rozm. Joanna Niemczynowska // Głos znad Niemna. 1999. 23 kwiet.

**Matematyka:** Pomoc nauk. dla klasy przygot. z jęz. pol. wykładowym szkoły ogólnokształcącej: W 4 cz. / M. Kasabucki, A. Katasonowa, A. Stolar, T. Czabatarewska. Mińsk. 1998.

**Pożecka Anna.** Konspekt lekcji z języka polskiego w klasie 1 “a” Średniej Szkoły nr 36 w Grodnie // Głos znad Niemna. 1999. 23 kwiet.

**Preckajło W.** Przedsięwzięcia Instytutu Polskiego w Mińsku: Okno na Polskę // Głos znad Niemna. 1999. 30 kwiet.

**Rewkowska Leonarda.** Festiwal Moniuszki // Głos znad Niemna. 1999. 30 kwiet.

**Szlendak Janina.** Konspekt lekcji z języka polskiego w klasie drugiej // Głos znad Niemna. 1999. 30 kwiet.

**Szlendak Janina.** Konspekty lekcji z literatury polskiej: [Пра Б. Пруса, Я. Паразінскую] // Głos znad Niemna. 1999. 9 kwiet.

**Zaleska Tatiana.** Republikański Konkurs Recytatorski Poezji Juliusza Słowackiego: Natchnione poezją // Głos znad Niemna. 1999. 30 kwiet.

**Zaleska Tatiana.** To jest Porozowo właśnie: Dziesięcioletni jubileusz założenia obchodził jeden z pierwszych oddziałów ZPB powstałych w okresie aktywizacji polskiego ruchu // Głos znad Niemna. 1999. 16 kwiet.

**Żol Irena.** Konspekt lekcji z języka polskiego w klasie 3 "c" Średniej Szkoły nr 36 w Grodnie // Głos znad Niemna. 1999. 23 kwiet.

**Żukowska Barbara.** Praca nad poezją w nauczaniu początkowym // Głos znad Niemna. 1999. 30 kwiet.

## • Беларусь – Расія

**Алексеевіч Таццяна** [Краснаярск]. Чаканняў Сібіры не падмануў: [Пра мастака-ганчара Алеся Мігаса з Краснаярска] // Голас Радзімы. 1999. 29 крас. – 6 мая.

**Алексин Анатолий.** Поэт и Каганович: [Пра С. Маршака] // Мишпоха. 1999. № 5. С. 4–8.

**Аленький** цветочек: По мотивам сказки С. Т. Аксакова и рус. нар. сказок: Для дошк. і мл. шк. возраста. Минск, 1998.

**Анішчанка Я. К.** Беларусь у часы Кацярыны II (1772–1796 гады): У дапамогу выкладчыкам, аспірантам і студэнтам / Рэд. У. А. Сосна. Мн., 1998.

**Бабель И. Э.** Избранное. Минск, 1998.

**Басин Яков.** Я песне отдал все сполна: (К 70-летию первого концерта теа-джаз-оркестра Леонида Утесова) // Мишпоха. 1999. № 5. С. 54–58.

**Баханьков А. Е., Гайдукевич И. М., Шуба П. П.** Толковый словарь русского языка. Минск, 1998.

**Бродскі Іосіф.** Нобелеўская лекцыя / Пер. з рус. Валянціна Акудовіча // Крыніца. 1999. № 2–3. С. 52–65.

**Воробьева И. В.** Религиозный идеал культуры о. Павла Флоренского // Весн. Бел. дзярж. ун-та: Сер. 3. 1999. № 1. С. 22–25.

**Глёбус Адам.** Расейская калекцыя: Нататкі з "Кішэннай гісторыі культуры" // Наша ніва. 1999. 26 крас.

**Гликман Гавриил.** Шостакович, каким я его знал // Мишпоха. 1999. № 5. С. 28–30.

**Голубев Сергей.** Духовное единство — фундамент союзной государственности // Бел. думка. 1999. № 5. С. 19–22.

**Горький А. М.** Пьесы: Для ст. шк. возраста. Минск, 1998.

**Грахоўскі Сяргей.** Сустрэчы з нашчадкамі Пушкіна // Літ. і мастацтва. 1999. 30 крас.

**Грыцкевіч Валянцін** [Санкт-Пецярбург]. Выступ на VI з'ездзе ТБМ (Менск) // Наша слова. 1999. 28 крас.

**Даведнік** "Беларусы ў Расіі" // Голас Радзімы. 1999. 15–22 крас.

**Дашчынскі Станіслаў.** Аб'ядналіся беларусы Мурманска // Голас Радзімы. 1999. 1–8 крас.

**Драянкоў Алесь.** "Сяло не прападзе": Сустрэчы ў дарозе [маскоўскага беларуса] // Літ. і мастацтва. 1999. 9 крас.

**Зуёнок Василь.** Слово из божественной тишины: К 200-летию со дня рождения А. С. Пушкина // Беларусь. 1999. № 4. С. 44.

**Іваноўскі В. С.** Гісторыя сусветнага тэатра: [Пра творчасць Дзяніса Фанвізіна] // Нар. асвета. 1999. № 4–5. С. 46–52.

**Карнялюк Канстанцін.** У Міхайлаўскае — праз Беларусь // Чырв. змена. 1999. 7 крас.

**Карпушин С. В., Ковалев Е. С., Рудь Л. Г.** Язык русской классики: А. С. Пушкин: В 2 ч. Минск, 1998.

**Каўка Аляксей** [Масква]. Развітанне ля цёплага каменя: [Інт.] / Зап. Яўген Лецка // Голас Радзімы. 1999. 15–22 крас.

**Каўка А. К.** [Масква]. Раскрываючы дужкі…: Пра кнігазбор Кастуся Езавітава // Здабыткі: Дакументальныя помнікі на Беларусі. Мн., 1998. Вып. 3. С. 76–86.

**Каўка Аляксей** [Масква]. Скарына — Купала — Улашчык: [Праблема беларускага самапазнання] // Голас Радзімы. 1999. 29 крас. – 6 мая.

**Кашапараў Анатоль.** "Не хачу перапяваць "а ля амерыканец"…": [Інтэрв'ю з рускім і беларускім спеваком А. Кашапаравым, ураджэнцам Мінска] / Зап. Вольга Брылон // Літ. і мастацтва. 1999. 9 крас.

**Кирюшкин Анатолий.** Беларусь начинает и выигрывает?: На информационном рынке России завоевывает популярность "Музыкальная газета", издаваемая в Минске: [Інт.] / Зап. Владимир Панада // Беларусь. 1999. № 4. С. 22–23.

**Киселев Владимир** [Масква]. В гостях у правнука великого поэта [Грыгорыя Грыгор'евіча Пушкіна] // Славян. набат. 1999. 22–28 апр.

